# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ.






№ 9. Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР. 1926 г.

# Рыхтуйцеся да сьвята ураджаю.

Вось-вось скончыцца сельска-гаспадарчы год і для кожнага гаспадара надыходзіць пара зрабіць падрахункі вынікаў гадавое працы. Сьвята ураджаю зьяўляецца такім днём, у які мы падагульваем гаспадарчыя сілы сялянства ды іх дасягненьні. Гэты дзень на вёсцы можна параўнаць з днём сьвята 1-га мая, якое зьяўляецца для нас аглядам рэволюцыйных сіл пролетарыяту.

Дрэнны той гаспадар, які не падрахоўвае score стратаў і прыбыткаў сваёй гаспадаркі. Ён жыве і робіць ня ведаючы таго, як будзе ў яго надалей. Наша сялянства не павінна быць гэткім сьляпым гаспадаром, а павінна йсьці сьвядомым шляхам, маючы перад вачыма сваю працу, свае прыбыткі і свае дасягненьні. Тады яно будзе разумець, як, што і да чаго ў яго гаспадарцы вядзецца.



Жняя за працай.

Вясковыя піонэры, складаючы перадавы атрад дзяцей, ня могуць і не павінны стаяць у баку ад сьвята ураджаю, а павінны браць у ім самы гарачы ўдзел і за сябе, і за бацькоў, на гаспадарцы якіх яны працуюць.

Піонэры добра ведаюць значэньне сельскае гаспадаркі ў нашай дзяржаве і сувязь яе з дабрабытам нашай краіны.

Усё гэта трэба мець на ўвазе піонэрам, каб прыкласьці і сваіх сілаў, і шчырасьці да гэтай справы, адпаведна запатрабаваньню ад іх сьвятам ураджаю.

Які могуць узяць удзел піонэры ў правядзеньні сьвята ураджаю? Што могуць і павінны яны рабіць?

Мы прапануем вось што: кожны піонэр—сын вясковага гаспадара павінен добра ведаць, як і што ўрадзіла ў іх гаспадарцы (хлеб, гародніна, садавіна) і як сеялі, садзілі ды даглядалі ў іх за гэтымі рэчамі.

На піонэрскім сходзе кожны няхай раскажа пра сваю гаспадарку: тут-жа, пасьля абгаварэньня справы, даведацца, дзе і ў каго ўрадзіла найлепш, ды пры якіх умовах (якое поле, насеньне і г. д.), а дзе найгорш (як там апрацоўвалі зямлю і як засявалі). Абгаварваць аб усім трэба паасобна (хлеб, агароднiна, садавіна) і з лічбамі ў руках.

Калі хто з гаспадароў, хоць і ня тых, што маюць лепшы ураджай, набываў якія-небудзь навіны (купіў машыну, добра ўгнойваў зямлю), дык гэткія выпадкі таксама варта выявіць.

Вось так, як бывае зьбяруцца дзеці ды хваляцца навінамі, якія маюцца ў іх дома ці на вёсцы—вось гэтак трэба падзяліцца піонэрам між сабой навінамі бацькавай гаспадаркі: у хлебаробсьцьве, у гадоўлі жывёлы і г. д.

Піонэрам, якія замяняюць часта ў працы сваіх бацькоў (адзін сын у бацькі), ня цяжка гэта зрабіць. Калі-ж хто абыякім быў да гаспадаркі і ня ведае, што і як, дык няхай хаця даведаецца, колькі коп з дзесяцiны здабыта, як змалацілі хлеб, якое зерня, колькі пудоў мелі з дзесяцiны і г. д.

Ня трэба толькі выхваляцца і гаварыць тое, чаго сапраўды ня было, ад гэтага будзе толькі адна шкода, ніхто ня будзе ведаць, як сапраўды пастаўлена праца ў гаспадарцы, што ў ёй добрае і чаго не хапае.

Пасьля ўсёй гэтай працы ня лішнім будзе зрабіць сумесна з бацькамі сход, дзе і растлумачыць, як і хто працаваў на сваёй гаспадарцы і што ад гэтага меў, хто што добрага набыў, у каго і чаму лепшы ураджай, а ў каго найгоршы і г. д.

На гэтым-жа сходзе можна паставіць якія-небудзь невялічкія цікавыя даклады з галіны сельска-гаспадарчай навукі. Напр.: аб папарах, шкодніках, угнаеньні. Матар'ял можна знайці ў бліжэйшай хаце-чытальні ці клюбе ў паасобных кніжках па сельскай гаспадарцы.

*(Працяг на 3 старонцы вокладкі).*




# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР


Зьмена зьмену рыхтуе сабе -піонэр- комсамол-КПБ.



| УМОВЫ ПАДПІСКІ: | |
|---|---|
| на 12 м. . . | 2 р. 40 к. |
| на 6 м. . . | 1 р. 20 к. |
| на 3 м. . . | — 60 к. |
| на 1 м. . . | — 20 к. |

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

№ 9. ВЕРАСЕНЬ. 1926 г.


## ЗА КНІЖКУ, ЗА ВУЧОБУ!

Пачынаюцца, а дзе ўжо да гэтага часу і пачаліся, заняткі ў школах. Піонэрам трэба быць добра падрыхтаваным, каб павесьці там сваю належную працу.

У мінулым годзе праца піонэраў у школе мела наступныя недахопы: піонэр-атрады не праводзілі ніякай падрыхтоўчай працы перад пачаткам школьных заняткаў, не растлумачвалі на сходах атрадаў і зьвеньняў таго, як павінен піонэр у школе працаваць. Ячэйкі КСМ, Бюро ЮП загадзе ня вылучалі належнага кадру павадыроў форпостаў, якія таксама змаглі-б падрыхтавацца да сваёй працы. Былі і такія выпадкі, калі павадыры форпостаў былі слаба знаёмы з працай піонэр-атраду, мала зьвязаны з атрадам, на грунце чаго пры складаньні плянаў працы вынікалі розныя непаразуменьні ў правядзеньні тэй ці іншай працы. Падрыхтоўка павадыроў форпостаў была слабай. У бягучым годзе гэтыя недахопы патрэбна стала абмяркаваць і старацца больш іх не паўтараць.

Бюро ЮП, ячэйкам КСМ і атрадам ЮП зараз-жа патрэбна растлумачыць піонэрам аб ролі піонэраў у школе, абавязках форпостаў. Дзеля кіраўніцтва працай форпостаў патрэбна вылучыць добрых комсамольцаў і на больш працяжны тэрмін, ня зьнімаючы іх з працы.

Дзеля таго, каб зьнішчыць перагрузку, паралелізм *) у працы атрадаў і школ, некаторыя моманты працы (як правядзеньне сьвят) патрэбна перавесьці ў школу, а ў атрадах можна весьці толькі падрыхтоўчую працу. Напрыклад: пры правядзеньні сьвята кастрычнікавай рэволюцыі гутарак у атрадзе можна не праводзіць, калі яны будуць праводзіцца ў школе. Вечар таксама можна правесьці ў школе.

Дзеля ўзгадненьня плянаў працы склікаюцца нарады з павадыроў атрадаў, форпостаў, піонэры, якіх вучацца ў большасьці ў аднэй школе і загадчыка школы, на якіх заслухоўваюцца пляны працы атрадаў і школы з мэтай адхіленьня некаторых паўторных пунктаў працы, альбо вызначэньня мерапрыемтваў дзеля сумеснага выкананьня працы ўсімі атрадамі.

Важнай задачай зьяўляецца ў працы школы яшчэ і тое, каб наладзіць цесную сувязь форпоста з настаўніцтвам, дабіцца, каб былі добрыя ўзаемаадносіны, ня было ніякіх недагаворанасьцяй між імі.

У гэтым годзе ва ўсіх гарадзкіх і вясковых сямігодках уводзіцца клюбны дзень. У організацыі і правядзеньні гэтых дзён піонэ-

*) Праца, якая адначасна праводзіцца і ў атрадзе і ў школе.

ры зь'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі і ініцыятарамі.

Як сябе павінен весьці піонэр у школе? На гэта пытаньне памятка піонэраў-школьнікаў гаворыць:

1) Піонэр, вучыся. Твой 5-ы закон гаворыць. „Піонэр імкнецца да ведаў, веды і ўменьне—сіла ў барацьбе за рабочую справу";

2) Аб'яднайся разам з другімі піонэрамі ў форпост. Піонэры ў школе павінны быць дружнымі і зьяднанымі;

3) Паведамляй на сходах форпостаў аб усіх недахопах у школе, каб іх можна было выправіць;

4) Дапамагай у працы вучкому. Сачы за тым, каб ён працаваў па-піонэрскі, прымай удзел у працы клюбу, гурткоў, камісіяў;

5) У насьценную газэту пішы часьцей; калі яе няма—організуй. Прынось і вывешвай у школе піонэрскія газэты і часопісі;

6) Будзь заўсёды з дзецьмі. Помні 4 закон: „Піонэр організоўвае акружаючых дзяцей і ўдзельнічае з імі ў акружаючым жыцьці";

7) Заві школьнікаў на піонэрскія, комсамольскія сходы і дэмонстрацыі. Пры правядзеньні політычнай кампаніі раскажы аб ёй сваім таварышам, дастань кніжку, плякат, адозву;

8) Вядзі барацьбу з хуліганствам, курэньнем, лаянкай. Запаўняй вольны час сваіх таварышоў разумнымі і карыснымі забавамі, навучай іх гульням, песьням, фізкультуры. Помні, што піонэр—для ўсіх дзяцей прыклад;

9) Дапамагай адстаючым дзецям займацца, не чакаючы іх просьбы аб гэтым;



10 Піонэр акуратны: яго кніжкі заўсёды ў парадку, у школу ён ня позьніцца, своечасова падрыхтоўвае заданьні, не акладвае на заўтра таго, што павінен ведаць сёньня.

Аб гэтай памятцы павінны ведаць піонэры, і ў сваёй штодзеннай працы праводзіць яе ў жыцьцё.

**А. Пякарчык.**

# ПАСТУШОНАК.

Сыны лясістае краіны,  
Прасторы сіняе сыны,  
Мы сонцатканыя напевы  
Для Вас ў бязьмежжы дзён зьвілі.  
Іду дарогаю, далінай,  
Шырокі шлях, прывольны шлях!  
Дзяды, бацькі абаранілі  
Краіны любай, любы шлях.

* * *

Жыта гульлівае песьціць атаваю,  
Ціхай гамонкаю зьвіты абшары.  
Ветрык з дуброваю гулка цымбаліць,  
Хваля за хваляй, віхурацца хвалі.

Вочкі, як вішанькі,  
Зреб'е падранае,  
Голыя плечы, запалены твар—  
Вось ён прад вамі, жывы пастушонак,  
Зараз вясковы важак-піонэр...  
Гальштук чырвоны палае ня дарма,—  
Гэтак-жа ў сэрцы палае пажар...  
Сёньня а 7-ай на зборы атраду  
А „дзет-нядзелі" чытае даклад.  
Гэй, расступіся, жытнёвае поле,  
Сполахам дзіўным ў зіяючы дні!—  
Кросны заснованы новай асноваю,  
Вёска сьніць новыя сны.

**З. Б.**






Апавяданьне О. Копылэнко *).

Настаўнік цэлую гадзіну гутарыў пра Леніна, а Міцік яго з вялікай ахвотаю слухаў. Казаў настаўнік аб тым, што Ленін барацьбіт за сусьветную рэволюцыю, што ён сябра, таварыш і вызваліцель усіх прыгнечаных. Нават забыўся Міцік аб сваіх папяровых галубох, чорціках і ярапланах, што нарабіў да гэтага з паперы, усё слухаў уважна і ніводнага разу ня ўшчыпнуў свайго суседа, хлапца, якога празвалі Макітрай.

Міцік думаў пра сябе: ну, да рэчы, а вось ён, Міцік, прыгнечаны ці не? Бязумоўна, прыгнечаны. Сягоньня на тым перапынку яму Васілёк Сласьнюк пасадзіў гуз на лбе, а за гэты гуз бацька дома папругі дасьць, ды яшчэ як дасьць: за тры дні не прачухаешся! Усе прыгнятаюць Міціка: і ў школе, і дома бацька — толькі там што-небудзь, зразу папругай!

Вось, бачыш, настаўнік кажа, што Ільліч дужа любіць дзяцей — гэта так. Калі-б ён быў Міцікавым бацькам, вось жыць можна было-б! А то маці ўсё толькі злуе і крычыць.

— Ад якога ты чорта ўзяўся на маю галаву, гэтакі гарэза!

Дрэнна так жыць прыгнечанаму. Калі-б і яго Ільліч вызваліў—эге... Але як яго апавясьціць аб сабе.

Упарта Міцік думаў аб гэтым, глядзеў на портрэт Леніна, на яго добрыя, ласкавыя вочы, а не дадумаўся, як яго аб сабе апавясьціць. Ён быў упэўнены, што Ленін адразу яго вызваліць.

Скончыўся ўрок. Міцік адважна падышоў да настаўніка і запытаў, ці няма ў яго портрэта Леніна. Той зьдзіўлена паглядзеў на хлапца, але вынес портрэт і даў яму.

Ня йшоў, а ляцеў Міцік да хаты—у торбачцы ляжаў портрэт Леніна, які ён зараз павесіць на сьцяне. Маткі ня было дома, ну, а бацька, як звычайна, на рабоце. Міцік знайшоў вялікі цьвік, доўга муштраваўся, пакуль прыбіў да сьцяны вялікі портрэт, а пасьля парашыў яшчэ і аздобіць яго. Палез шукаць у сваіх кніжках: там у яго захоўвалася колькі пекных малюнкаў з цукерак і з скрынак ад цыгар. Разжаваў жытняга хлеба і панаклейваў усё гэта каля портрэта. Вышла цудоўна—портрэт упрыгожаны надзвычайна. Але гэтага мала. Міцік падумаў, чым-бы яшчэ ўпрыгожыць?

Паглядзеў ва ўсе куткі хаты: нічога няма. Аж глядзіць—гэтым можна, толькі што маці скажа... Ат, няхай крычыць, лаецца, вось Ільліч гэтак ўсё жыцьцё змагаўся за волю і не баяўся сваіх ворагаў, так і ён—няхай лаецца маці, б'е, а ён пасвойму зробіць. Можа маці і не заўважыць. Міцік яшчэ раз глянуў у куток, дзе вісеў абраз, упрыгожаны пазалочаным бліскучым убраньнем так, што відаць толькі галава і рукі малюнка на абразе.

Няхай,—падумаў Міцік,—без пазалочанага ўбраньня пабудзе, бычыш, шчасьце якое вісіць, нядаўна настаўнік казаў, што абраз—гэта кусок дрэва.

А ўсё-ж такі ён помніць, што калі пра гэта сказаў матцы, яна вылаялася, дала яму па шыі і прымусіла глядзець на абраз і казаць якіясьці безталковыя словы. Кажа матка гэта пацяры, а хто іх ведае, што гэта за пацяры. Абрыдзела Міціку, ён і ўцёк з хаты.

А ўсё-ж такі Міцік парашыў зьняць пазалочанае ўбраньне з абраза. Ён паставіў на стол услончык, палез і пачаў аддзіраць з абраза ўбраньне. Ужо, нават, канчаў—думаў толькі, як найпрыгажэй абклеіць сьцяну, калі стукнулі дзьверы і... на парозе маці. Міцік і зьлезьці забыўся—застыў у гары на куце з жмуткам залатога ўбраньня ў руках.

Матка нібы абамлела, а пасьля пачала дапытваць хлапца:

— Злазь, гарэза!.. злазь табе кажуць, а то...

Міцік харобра паглядзеў ёй у вочы:

— А то, дык што?

*) Пераклад з украінскай мовы.

— Ты гэтак... Схапіла яго за руку і са злосьцю сьцягнула з стала:

Ты што гэта рабіў, кажы?!

— Што? Убраньне зьнімаў з абраза, хацеў сьцяну ўпрыгожыць...

— А, упрыгожыць! Ну, я цябе ўпрыгожу!..

І пачалася калатуша. У руках маткі сьвіснула лазіна і пачала пісаць па сьпіне й ніжэй сьпіны Міцька гэткае „чыстапісаньне“, што Міцік толькі пасьля і змог зьлезьці далоў і легчы, каб увечары яшчэ й бацька не дапоўніў сваёй цьвёрдаю рукой.

Матка яшчэ доўга лаялася, Міцік маўчаў, нават маўчаў тады, калі яна яго біла, толькі адзін раз абазваўся да яе злосна:

— Бі, бі, я не баюся! Ленін быў харобры, змагаўся, вызваляючы ўсіх, — я таксама не баюся!.. Абразы нейкія выдумала. Паслухала-б што Іван Мікітавіч пра абразы кажа...

Гэта разьлютвала матку яшчэ больш і за гэта хлапцу дасталося з дзесятак дадатковых дубцоў.

Пасьля Міцік ляжаў і скрозь сьлёзы думаў свае думы: ён далей жыць гэтак ня можа, няхай там матка як хоча, а ён ня можа... Годзі! Вось калі-б Ленін быў яго бацькам, або, скажам хоць ведаў бы, як тут з Міцікам расправуляюцца, ён дапамог-бы... Так, так дапамог-бы... А як яму даць аказю аб сабе: Ленін у Маскве, далёка... Вельмі далёка... так проста не раскажаш яму...

Доўга разважаў Міцік і ўжо ўначы вырашыў канчаткова справу: ён сам паедзе ў Маскву, да Леніна. Дастане трохі грошай, возьме хлеба на дарогу і паедзе, а там знойдзе яго, знойдзе й раскажа сам ўсё Леніну—няхай дапамагае. Усім прыгнечаным дапамагае, дзяцей любіць, вось Міцік і пойдзе, і — канец. Там Ільліч яго ў школу пашле і ня будзе біць, а маці няхай тады пабудзе сама ды паплача, каб ведала...

Пойдзе. На станцыях будзе распытваць, куды на Маскву ехаць.



... ён застыў з жмуткам залатога убраньня...

Раніцай Міцік пачаў ужо зьбірацца. Калі матка выйшла за нечым на двор, ён адрэзаў добры кусок хлеба і ўзяў некалькі картофлін—усё гэта схаваў. У школе прадаў свой пугач, з дзесятак чорцікаў і прывёў купца на пару сваіх галубоў-вяртуноў. Прадаў галубоў і за тры дні сабраўся ў дарогу.

Увечары, перад тым, калі ён ўжо надумаўся выехаць, зложыў усе харчы, што назапасіў за гэты час у торбачку, дзе насіў кніжкі да школы, завязаў у хустачку грошы і быў цэлы вечар ціхім, пакорным. Нікуды не пайшоў, на вуліцу нават не пайшоў—сядзеў задумёным, так што нават матка падышла да яго, палажыла руку на галаву, пагладзіла яму віхорык валасоў і запыталася ласкава, ці ён ня хворы... Не, ён ня хворы, а маткі яму шкода стала—бач, пакідае яе адну... Хто ведае, як там у Леніна. Можа ня будзе так, як тут... Вось узімку, да рэчы, яны ўстануць з маткай, калі яшчэ цёмна; яна шые, а ён сядзіць за кніжкамі і шмат чаго расказвае ёй. А як там будзе...

Але аб гэтым ён думаў ня доўга—заснуў, і ўранку, калі толькі што матка пайшла на рынак, а бацька ўжо быў на рабоце, на чыгунцы, Міцік выцягнуў свой клумак, пайшоў на станцыю і ўвечары Міціка ня было дома.

II.

Позна ўвечары таго-ж дня пад'яджаў да вялікай станцыі Лазовай. Цягнік ляскатаў у цемры сваімі мэталёвымі калёсамі. Чыстымі, бліскучымі кветкамі блішчэлі зоры. Міцік сядзеў у зачыненым таварным вагоне і часта паглядаў у шчыліну дзьвярэй. Ён парашыў прыехаць на станцыю, дзе-небудзь пераначаваць, а заўтра шукаць дарогі да Маселвы: яно, думаў, мабыць, ужо і недалёка.

Калі цягніка ня будзе, дык ён сабе і пяшком пойдзе. Трукацеў цягнік, а Міціку здавалася, што ён зя цягнікам кудысьці праваліваецца, цягнік разьбіваецца на шчэпкі, і ён жывым спадае проста да Леніна. Думаў Міцік і аб тым, што робіцца дома, і ня

ведаў, што там матка ўжо кінулася яго шукаць, а бацька прыйшоў п'яны, і калі яму сказалі, што няма Міціка, ён разлаваўся.

— Я яму ўсю скуру абаб'ю, каб новая нарасла... Я яму пакажу, як уначы гуляць...

А матка ўжо зьбегала да знаёмых, даведалася, што Міціка ня было ў школе і яго бачылі, як ён з клумкам хадзіў ля станцыі. Маці трывожна, задумёна перакідалася на пасьцелі з боку на бок і часта-часта паглядала ў цемру за вакно—ніяк не магла заснуць. Рана яна ізноў пайшла шукаць хлапца, распытвала ўсіх, і ўжо палова тэй маленькай вёскі ведала, што дзесьці, невядома дзе, запрапаў Міцік.

А ён сабе сядзеў уначы ў вагоне, а вагон каціўся ў чорную ночную далячыню. Трохі вусьцішна *) было і здавалася, што з куткоў вагону паўзе на яго штосьці вялікае, страшнае і зразу схопіць. Але вось засьвістаў паравік—пачалі пад'язджаць да якойсьці станцыі. Міцік нібы задрамаў і прахапіўся, калі ў сьцяну вагона нешта загрукала і ў дзьверы прасунулася кудлатая галава бяз шапкі. Міцік так і прыліп да падлогі. А галава прасунулася ў вагон, агледзела цемру, і ў вагон улез хлапец, абарваны, нізенькі. Ён сеў, дастаў тутунь і пачаў вярцець цыгарку. Пасьвяціў запалкай і... убачыў Міціка. Абодва трохі зьдзіўлена глянулі адзін на другога, абадраны подыйшоў да Міціка, спытаў:

— Як цябе зваць?

— Міцік.

— Міцік?.. А мяне Алесь Руды... Ты курыш?

— Не...

— Дрэнна...

Пасьля гэтага хлапцы пачалі гутарыць. Алесь Руды расказаў, што яму надакучыла сядзець у Лазовай, дык ён езьдзіў на вёскі „швендацца“—пагуляць трохі, а гэта нават думаў у Менск зацягнуцца, а то сумна на адным мейсцы сядзець. Ён запытаўся ў Міціка хлеба і, калі той палажыў перад ім торбачку, хутка палова хлеба, якая была ў Міціка, схавалася ў клумку Алеся.

Толькі сумнымі вачыма дзівіўся Міцік на гэткае зьнішчэньне яго запасаў.

Расказаў і яму Міцік, хто ён і куды едзе. Алесь расьсьмяяўся весела і прамовіў:

— Ты, брат, хлапчына, дурань... Ну, але я цябе вывучу...

Прыехалі на станцыю Лазовую і Алесь павёў Міціка па-пад вагонамі кудысьці начаваць. У кутку між двума платамі яны прыселі і Алесь расказаў, дзе яны цяпер сядзяць, але Міцік нічога не разумеў, а Алесь, відаць, дасканала ведаў тут усе ўваходы і выхады. Ён пляваў, зацягваўся махоркай і паказваў:

— Вось гэта бульвар, а гэта дэпо, там рынак, рынак тут дужа добры, толькі міліцыянэры злосныя. А калі зловяць дзядзькі, дык рабрыны палічаць... Міцік ужо драмаў, калі Алесь падняўся і заявіў:




... І Алесь павёў Міціка па-пад вагонамі...

— Ведаеш што, сябра, я цябе на Маскву адпраўлю. Ты дай мне грошы, я зараз пайду вазьму табе білет, бо цягнік адыходзіць хутка, а ты пакуль што пачакай. А то давай адразу і клумак—я пайду да сваіх хлапцоў, дастану ў іх чаго-небудзь пад'есьці.

Міцік з чыстым сэрцам дастаў грошы і аддаў іх Алесю, пасьля з клумка выцягнуў портрэт Леніна. Алесь глянуў:

— Гэта што?

— Ленін. Гэта я да яго еду.

— Ага, ну добра... А ну, дай гляну.

Разгарнуў портрэт, падзівіўся і прамовіў:

— Нішто сабе, твар прыгожы, гэты, мабыць, нашага брата ня крыўдзіць, валяй да яго і пра мяне раскажы.

Ён узяў клумак з рэштай хлеба:

— Ты, калі хочаш, лажыся, я зараз буду—адна нага тут, другая там.

І Алесь скочыў пад вагон у цемень, а Міцік пачуў, што ў яго зьліпаюцца вочы. Хутка ён ужо спаў.

III.

Прачнуўся Міцік уранку, бо стала яму трохі холадна, хоць вясновая ноч была маладой і цёплай.

Крычалі паравікі, дзесьці мітусіліся людзі. Зьдзіўлена аглядаў усё Міцік, пакуль не

*) Страшнавата.

распазнаў, дзе ён і ўбачыў, што каля яго няма Алеся Рудага і няма ў яго ні хлеба, ні грошы.

Зрабілася балюча і страшна. Адзін на вялікай станцыі і куды йсьці—ня ведае. Цяпер ён ужо зразумеў, што Алесь яго абдурыў, забраў усё і зараз яго не знайсьці.

Агледзеўся, злазіў пад вагоны, дайшоў да станцыі. Страшэнна хацелася есьці, ды і сонца ўжо ўзьнялося, усё-ж ён пачаў распытваць, дзе дарога на Маскву. З яго сьмяяліся, а ён нічога не разумеў, і калі нічога не даведаўся і есьці хацелася моцна, Міцік успомніў матку, бацьку... Зрабілася шкода іх, захацелася дамоў. Мімаволі закапалі з вачэй сьлёзы; ён стаў каля якогасьці слупа і... заплакаў.

Плакаў і кулакамі расьціраў сьлёзы па твары.

Сабраліся людзі, а пасьля і міліцыянэр падыйшоў, запытаў аб нечым і павёў Міцика з сабой ў нейкую хату. Там яшчэ некалькі сядзела ў картузах з зялёным верхам. Спыталі, хто ён. Адзін з іх прамовіў:

— Ён і ёсьць... вось тэлеграма, зваць Міцікам... А колькі табе гадоў?

— Дзевяць...

— Ну, ён і ёсьць... А што гэта ў цябе ў руках?

— Ленін...

— Ленін?.. Чаго ён у цябе?

— Я да яго ехаў...

Некаторыя засьмяяліся, а адзін пагладзіў Міціка па галоўцы і шчыра прамовіў:

— Да Ільліча ехаў... Маладзец, ён любіць дзетак. Толькі ты сам ня едзь, малы... Паедзеш дамоў... А калі-небудзь і ў Леніна пабудзеш. Пакуль што кніжкі чытай пра яго і яго кніжкі... Вучыся.

Ён сказаў аднаму з вартаўнікоў:

— Дагледзьце яго ды з першым цягніком накіруйце да хаты.

Міцік ехаў да хаты. На сваёй станцыі яго спаткала матка і радасна кінулася да яго, нават ня вылаяла і дома ня біла. Толькі ўвечары Міцік, размаўляючы з ёю, заявіў:

— А я, калі выpасту, паеду да Леніна абавязкова.

— Паедзеш, сынку, паедзеш ..

І матка прыгладзіла яму на галаве віхорык валасоў.

## Жніво.

Золатам бліскае сьпелае жыта,
Морам хвалюецца лог.
Цэлае войска жанчын на загонах;
Праца кіпіць на палёх.
Хай гарачыня пячэ несьцярпіма,—
Жнеям ня грозна яна:
Вольная праца ўзьвіхорыла сілы,
Згінуў прыгнёт і мана.
Жніўныя песьні зьвіняць над палямі,
Душу ўздымаюць людзём.
З песьняй вясёлаю спорыцца праца,
Валіцца сноп за снапом.
Пісну ў дзяцёнак маленькі ў калысцы.
Жнейка дажала снапок.
Пільна калыша, ўнімае малога.
Сьціх... Яна зноў за сярпок.

Часам шугне ў полі ветрык—і зьнікне;
Ціха навокал ізноў.
Чуецца шопат калосься ды скрогат
Гострых сталёвых сярпоў.
Сьпёка пад вечар сьціхае паволі,
Хіліцца сонца к зямлі.
Праца дружней адвячоркам у полі.
Цені ад бабак ляглі...
Дзень патухае... Вясёлыя жнейкі
Ў вёску ідуць грамадой.
Гучнаю песьняю звоняць прасторы
Ціхай вячэрняй парой:
„Сёньня ўсё поле сваё зваявалі
Мы на радзімай зямлі;
Толькі змагаліся тут не мячамі,—
Бойку сярпамі вялі..."

**Я. Івашын.**





# Дрэнны ўчынак

Анатоль Тычынкі 26.

**Апавяданьне Яз. Віра.**

Кася паступіла ў піонэрскі атрад, які утварыўся ў вёсцы толькі на гэтым тыдні. Колькі радасьці! Колькі задаваленьня! З паружавелым тварыкам убегла ў хату і, хватаючы матку за руку, сказала:

— Мамачка, прывітай мяне,—я піонэрка! Ты ня можаш сабе ўявіць, мама, як я рада! Буду хадзіць на зборы атраду, слухаць гутаркі, чытаць кніжкі; пасьля перайду ў комсамол і, магчыма, буду комуністкай... Ты памятаеш, мама, тую жанчыну, якая вяла сход дэлегатак? Яна-ж, казалі, комуністка. Ах, якая яна разумная, як хораша і дакладна гаварыла аб тым, як нам палепшыць сваё жыцьцё!!

Маці пагладзіла Касю па галаве.

— Ну, глядзі, дачушка, вучыся, не лянуйся, на тое-ж і атрад утвораны, каб вы атрымлівалі добрае выхаваньне і набіраліся розуму. Ты павінна быць прыкладнаю і для іншых і выхаваць з сябе здольную працаўніцу. Ведаеш аб чым вучыў Ленін?

Кася зірнула на портрэт Леніна і сказала:

— Не-э, ня ведаю.

— Ну, вось, а ў атрадзе, напэўна, даведаешся.

— А ты, мама, ведаеш?

— Скуль мне ведаць? Мне самой шмат трэба вучыцца. Мяне, бач, абралі дэлегаткай, дзе, на сходах, я таксама буду вучыцца. Нас малых некалі ня вучылі: летам пасеш каровы, а зімой увесь час сядзіш за прасьніцаю і прадзеш кудзелю; у школу бацькі ня пускалі.

— Вось, мама, як вам некалі было дрэнна! —сказала спагадна Кася і, вышаўшы з хаты, пашла падскакваючы ў клюб.

У атрадзе Кася захапілася працаю і зрабілася актыўнаю піонэркаю. Ні адзін сход, ні адна гутарка не адбывалася бяз удзелу Касі. Усе тыя кніжкі, якія былі ў невялічкай піонэрскай бібліотэцы, Кася прачытала з вялікай цікавасьцю і шмат чаго ўведала. У вольны ад працы час Кася зьбірала навакол сябе малых дзяцей, садзілася на прызьбе і вяла з імі гутаркі.

Паказваючы пальцам на малога хлапчука, Кася пытала:

— Ну, Петрык, чым ты будзеш, калі падрасьцеш?

— Акцяблонкам!

— А пасьля?

— Піянэлам!

— А пасьля?

— Камуністым!

— Гэ, вось і памыліўся! А ў комсамол ня хочаш?—запытала жартаўліва Кася.

У канцы прызбы забаўлялася малая Стэфачка, пякучы з пяску аладкі. Кусочак цэглы быў яе печкаю, а чарапок – скаварадою. У ямцы знаходзілася замешанае трэскаю цеста. Кася зірнула ў блакітныя вочкі дзяўчынкі і запытала:

— А ты чым будзеш, Стэфачка?

— Я буду мамаю,—адказала сур'ёзна Стэфачка мяшаючы ў ямцы цеста. Усе зарагаталі, а Стэфачка, як і раней, не пакідала пячы аладкі, час ад часу падліваючы ў ямку ваду.

Улетку, калі распачалася праца на лузе і поле, Кася штодня заставалася дома толькі з сваім маленькім братам Юзікам. Бацька йшоў касіць, а матка жаць у поле. У вёсцы заставаліся толькі дзеці, старыя дзяды ды бабулькі, якім davучалі няньчыць дзяцей.

Як толькі бацькі пайшлі працаваць, Кася праз нейкі час палажыўшы спаць Юзіка вышла на вуліцу. Навакол было пуста. Сонца моцна пякло і ўсё жывое хавалася ў халадок, толькі безклапотныя куры купаліся ў гарачым пяску, ды дзвынчалі мухі, лётаючы навакол. Касі зрабілася сумна і яна пайшла ў агарод. Уздоўж паркану знаходзіцца агарод суседкі —удавы Тамашыхі, сярод якога расьце адзіная, яшчэ зусім маладая яблынка, усыпаная яблыкамі. Яблыкі сваёю прыгожасьцю і чырвона-жоўтаю афарбоўкаю ўжо ня раз кідаліся Касі ў вочы і ёй заўсёды хацелася сарваць хоць бы адзін яблычак, але страх перад будучынай і сорам за дрэнны ўчынак заўсёды адхілялі яе ад гэтага. Сягоньня чамусьці яблыкі здаваліся яшчэ прыгажэйшымі, боль-

шымі і, апрача таго, вабілі Касю да сябе сваім надзвычайна прыемным пахам.

— Ах, якія яны цяпер смачныя, салодкія! Хоць-бы трошкі пакаштаваць,—сказала яна азіраючыся навакол. Моцныя жаданьні шапталі ёй: „Трэба пайсьці... ніхто ня ўбачыць, калі адарваць і хоць пакаштаваць якія яны смачныя“.

Разам з тым нейкі нутраны таемны голас адхіляў яе ад гэтага, малюючы дрэнныя вынікі ў будучыне і паказваючы, што яна піонэрка. Пасьля некаторай развагі, стрымліваючы дыханьне, пералезла паркан і хутка накіравалася да яблынкі. Падыйшла, азірнулася ва ўсе бакі і, схапіўшыся рукамі за камель, узьлезла на дрэўца. Пад нагамі зыбалася тонкая галінка. У самым версе знаходзіліся найлепшыя яблыкі, зьвісаючы над галавою Касі. Яна выпрасталася, нагнула галіну, каб дастаць яблыкі і... ахнула. Галіна, на якой стаяла Кася, раптоўна луснула і адарвалася, а сьледам за ёю кінулася дамоў амярцьвелая Кася.

— Што ж я зрабіла?—прамовіла яна не сваім голасам, схапіўшыся рукамі за галаву. На бледным яе твары выявіўся моцны сполах, ногі і рукі калаціліся, рот перасох.

Не памятала як пералезла паркан, перабегла вуліцу і апынулася ў сенцах на ложку, дзе спаў Юзік. Уткнула твар у падушку і пачала усхліпваць, шэпатам упікаючы сябе за дрэнны ўчынак. Увесь дзень Кася хадзіла сумная, страціўшы смак да яды і ахвоту да забавы. Няпрыемныя назойлівыя думкі неадчэпна блыталіся ў яе галаве і атручвалі пачуцьцё.



.. Галіна, на якой стаяла Кася раптоўна луснула і адарвалася...

Увечары, у часе зьмярканьня, людзі варочаліся з работы дамоў. Кася вышла на вуліцу, села на прызьбе і з нейкай, невядомай дагэтуль, баязьлівасьцю і трывогаю чакала маткі, пазіраючы ў агарод. Малы Юзік гуляў з іншымі дзецьмі, майструючы з трэсак і дубчыкаў хатку, не зьвяртаючы на Касю жаднай увагі. Заскрыпелі вароты. Кася азірнулася і ўбачыла ўдаву Тамашыху, якая падышла да яе і запытала:

— Можа ты, Каська, бачыла, хто гэта сёньня лазіў у мае яблыкі і акалечыў яблынку?

Пытаньне Тамашыхі было неспадзяваным для Касі і яна здрыганулася. Густая гарачая чырвань разьлілася па яе твары, заказытала вушы, пачала грэць і засьцілаць неспакойныя вочы, апушчаныя ўніз. Нешта хацела адказаць, але язык блытаўся, бліскучыя сьлёзы засьцілалі вочы, сьціснулася горла і задрыжэлі рукі. Усё гэта перашкаджала ёй гаварыць і яна ўтаропленая маўчала. Тым часам з-за прагуменьня выбег Сымонаў Сьцёпка, падскакваючы і выцінаючы дрындушку:

„Гоп, па-па! гоп,
па-па!
Чорна сьвітка ў папа,
А ў пападзьдзі белая,—
Поп за ёю бегае!!

Тамашыха, дзякуючы зьмярканьню, не заўважыла засмучэньня Касі і, пачуўшы голас Сьцёпкі, зьвярнула на яго ўвагу. Сьцёпку ў вёсцы лічылі за самага распуснага хлапца, бо часта заставалі ў чужых садкох і агародах, дзе ён рваў яблыкі, гуркі і моркаву. Цяпер, убачыўшы вясёлага Сьцёпку, Тамашыха была ўпэўнена, што лазіў у яблыкі і абламаў галінку ніхто іншы, як ён. Падыйшоўшы да Сьцёпкі, яна схапіла яго за каўнер і моцна трасучы, са злосьцю запытала:

— Ты, гад, лазіў у мае яблыкі? Ты абламаў галіну? Кажы!

— Калі? Што вы, цётка, кажаце? Я сёньня ўвесь дзень пасьвіў авечкі; спытайцеся сабе ў таты, сказаў усхліпваючы Сьцёпка.

— Бацька твой таксама злодзей, што распусьціў цябе—такога раскола! Яшчэ ня хочаш прызнавацца? Я-ж табе пакажу, зладзюга, не дажджэш ты больш лезьці! — закрычала Тамашыха і пацягнула Сьцёпку да хлява, дзе валяліся гібкія дубцы.

Застыўшая на мейсцы да гэтага, Кася рванулася наперад, схапіла Тамашыху за рукаў і плачучы прагаварыла:

— Цётачка, даражэнькая! Не чапайце яго, гэта ня ён!

— А хто-ж?

— Цётачка, гэта-ж... гэта-ж я...

— Дык гэта ты! — сказала Тамашыха зьдзіўлена і працяжна, — гэта ты — разумная дачка разумнай маткі? Не спадзявалася, такі-ж ты і піонэрка, брыдка-ж табе будзе: гэтакая дзеўка, саромялася-б!..

Сьцёпка, выскаўзнуўшы з рук Тамашыхі, асеў на прызьбе і смаркаўся, і плакаў, тручы кулакамі вочы.

Кася стаяла, як нявольніца. Усякае слова Тамашыхі было ўсыпана атрутнаю ўсьмешкаю зьмешанаю з абурэньнем, усякае слова, як варам, аблівала яе з галавы да ног, пратыкала наскрозь цела, шарпала сэрца і вугольлямі пякло вочы. Кася чакала і нават хацела, каб Тамашыха яе біла так, як думала біць Сьцёпку; ёй было-б шмат лягчэй зносіць боль ад сырога дубца, ад прута, нарэшце хоць-бы ад чаго, але, каб толькі не ад гэтых упічных і саромных слоў.

Навакол пачалі зьбірацца дзеці. Яны жартавалі, слухаючы лаянку Тамашыхі, і дражнілі Касю. Ёй стала бязьмерна сорамна і, закрыўшы рукамі шчокі, яна пабегла ў хату, завучы Юзіка. На парозе спаткалася з маткаю. Тая зьдзіўлена зірнула на яе і запытала:

— Што з табою? Які твой твар? Хто цябе пакрыўдзіў?

— Мамачка, пакарайце мяне, гэта-ж я пакрыўдзіла...

Падыйшоў бацька. Заліваючыся сьлязамі, Кася расказала бацькам аб усім тым, што з ёю здарылася. Маці маўчала, пазіраючы на Касю з дакорам, а бацька са злосным выразам на твары схапіў на лаве раменную папружку і моцна высьцябаў Касю па плячах, пасьля схапіў за руку і пачаў моцна тузаць, выпіхаючы яе на двор з моцным выкрыкам:

— Вон! Вон, зладзейка! Матка ня вытрымала, кінулася наперад і засланіла сабою Касю.

— Даволі! Дзіця заб'еш! Яна і так досыць пакарана, а мы не павінны ўшчуваць дзяцей папругамі і кулакамі.

Бацька са злосьцю кінуў папружку і лаючыся вышаў з хаты. Кася нібы прырасла да аднаго месца і стаяла, як утрупелая.

— Што рабіць, куды йсьці, чым змыць пляму сораму? Круціліся неразгаданыя пытаньні ў яе галаве.

Пасьля некаторага маўчаньня, маці спагадна паглядзела на Касю. У яе грудзёх, заварушылася пачуцьцё шкадлівасьці. Абняўшы Касю, яна пачала яе супакойваць, упэўненая ў тым, што Кася, сама пераканаўшыся ў выніках дрэннага ўчынку, больш гэтага ніколі ня зробіць. Пад уплывам матчыных слоў Кася крыху супакоілася, але яшчэ доўга мятусіліся няпрыемныя думкі ў яе галаве, пакуль, зусім утомленая, не заснула.

На другі дзень усе піонэры даведаліся аб учынку Касі і над ёю ў клюбе быў утвораны сяброўскі суд.

Сабралася шмат піонэраў і неарганізаваных дзяцей. Кася, прызнаючы сябе моцна вінаватаю, прасіла, каб суд яе пакараў і дала праўдзівае піонэрскае слова, што надалей нічога дрэннага рабіць ня будзе. Урэшце абмалявала свой настрой і пакуту пасьля зробленага ўчынку і заклікала прысутных ніколі не рабіць таго ці іншага злачынства.

Суд вынес пастанову аб выключэньні Касі з атраду, тэрмінам на адзін месяц.

Усё выказанае Касяю і прысуд над ёю зрабілі моцны ўплыў на дзяцей. Нават Сымонаў Сьцёпка, зьвяртаючыся да сваіх сяброў, сказаў:

— Не, браткі, больш і я нікуды не палезу красьці — дрэнная гэта справа.

Кася маўкліва йшла дамоў. Навакол яе шумелі, сьмяяліся і жартавалі дзеці, а яна якбы нічога ня чула; ей перашкаджалі вобразы нядаўнага перажытку, якія неадчэпна скакалі перад ёю, краталі балючае мейсца.



# ЯНКА.

*(Малюнак).*

I.

— Ах, ты, басяк, скуру я табе паскам сьпішу, а ня пушчу ў атрад! — крычаў Апанас на свайго сына Янку.

— Татачка, дык цяпер-жа ўсе дзеці йдуць у атрад,—усхліпваў Янка, — чаму-ж мне ня быць піонэрам?

— А чаму табе царква ня ў нос?! Дык ты ўсё ў ў клюб, да тых чарцей, якім хочаш і сам стаць. Глядзі, у школку зімой ня пушчу, есьці ня дам, калі ты запішашся ў піонэры! — злаваў Апанас і тут жа хватаў за вушы Янку.

Янка залазіў у запечак і толькі тады, калі бацька злосна ляпаючы дзьвярыма, выходзіў у павець да свайго сталярскага варстату, Янка ціхутка вылазіў з-запечка і садзіўся за чытаньне кніжак з піонэрскай біліотэкі. Гэтых кніжак Янка перад бацькам ня чытаў,бо бацька іх ня любіў.

Яшчэ зімою было трохі лепш. Бацька ня мог разьбірацца ў тым, якую кніжку чытае яго сын: піонэрскую ці вучэбнік, а ўлетку справа была куды горшай. Кнігі, па якіх зімою Янка вучыў лекцыі, аддаваліся на лета ў школу. Уласных кніжак у яго ня было. І сумаваў Янка, як чарот пры рэчы. Ды і як не сумаваць. Уцячэш, бывала, у піонэрскі клюб, а там: Юзік Ігнасёў , Кастусь Міхасёў, Уладзік і ўсе яго сябры вяселяцца і сьпяваюць. У іх чырвоныя гальштукі на шыі, а ў Янкі—няма „Эх, якія яны шчасьлівыя!“ —думаў Янка.

— Ну, што, Янка, не згаджаецца бацька, каб ты ў піонэры йшоў?—пытаюць хлапцы.

— І ня пытайце!—скрыўджаным голасам адказваў Янка.

II.

На дварэ стаяў пануры верасень; цёмныя хмары насіліся па небе, рассыпаючыся па полі дробным дажджом. Агаліліся ад зелені сады. Ня чуваць было вясёлых сьпеваў жаўранкаў і шчэбету ластавак. У гэту пару Янка разам з сваімі сябрамі хадзіў у школу. Аднаго разу, ідучы з школы дамоў, Янка заўважыў ля піонэрскага клюбу нешта нязвычайнае. Гурба хлапчукоў склупіліся ля самага ганку і з дзівам глядзелі на сьцяну. „Відаць, чытаюць цікавую абвестку“,—падумаў Янка і накіраваўся да сваіх сяброў Калі ён падыйшоў да самай сьцяны, то ўбачыў пекны, размаляваны чырвонаю фарбай ліст:

**АБВЕСТКА.**

Даводзіцца да ведама ўсіх дзяцей не піонэраў, што будзе організоўвацца новы атрад. Жадаючыя стаць піонэрамі, павінны падаць заявы не пазьней 1-га кастрычніка.

Павадыр **МІХАСЬ.**

— Значыцца, гэта пісаў Міхась, той Міхась, які вельмі хоча, каб я быў піонэрам,—падумаў Янка і тут-жа штурхнуў пад бок свайго сябра Юрку:

— Хадзем, Юрка, дамоў.

— Хадзем,—сказаў той і два хлапчукі пашлёпаліся ўздоўж гразкай вясковай вуліцы.

— Ці ты, Юрка, будзеш падаваць заяву ў атрад,—запытаўся Янка.

— Чаму? Буду. А ты?

— А я і сам ня ведаю: ці пусьціць бацька,—адказаў Янка і разышоўся з Юркам, які зьвярнуў на свой панадворак.

Распрануўшыся і скінуўшы торбу, Янка задумёна сеў ля стала і пазіраў, што робяць яго бацькі. Матка гула на ўсю хату калаўротам, дапрадаючы леташні кавалак кудзелі. а бацька сьпяшаўся падшываць лапці.

— У цябе баліць што, Яначка?—запытала маці.

— Не...

— А чаму-ж ты ня просіш есьці?

— Ат, ня ведаеш яго, мо' зноў надумаўся ў атрад,—буркнуў бацька.—Чаго ты, кажы?

— Ды гэта-ж сёньня ля клюбу прыбілі абвестку, што будуць організоўваць новы атрад...

— Што, зноў ты ў піонэры?... А гэта рэч табе незнаёмая?—паказаў бацька ня сьцяну, дзе вісеў тоўсты пасак.

Янка яшчэ мацней заліўся сьлязьмі. Агарнула нейкая злосьць матку.

— Дык няхай мо' пішацца...—баючыся прагаварыла матка.

— А хто-ж будзе гаспадаром?—наваліўся бацька: —ён-жа тады ў атрад толькі будзе хадзіць.

— Татачка, буду гаспадаром, усё рабіць буду, толькі пусьцеце ў атрад,—прамовіў Янка.

— Ну, дык пішыся,—сказаў нарэшце бацька.

Якая радасьць залунала на дробным тварыку Янкі. З захапленьнем прыняўся пісаць заяву, а на ўсю хату зноў загуў матчын калаўрот.

Піонэр **Кастусь Шавель.**

---

# Раніца.

Хмары-кудры узьвіліся
Над зямлёй,
На свабодзе,
Ў карагодзе
Над зямлёй.

Сенажаць умылася
Ды расой,
Сьветлай, чыстаю
Прамяністаю
Расой.

Раньнем усьміхаецца
Небасхіл:—
Ой, зялёны,
Нескончоны
Небасхіл.

Рэхам адгукаюцца
Ўдаль лясы,—
Гулкім рэхам,
Звонкім сьмехам
Ўдаль лясы.

Піонэр **Юлі Таўбін.**

# „ГРЫШКА СЬВІНАПАС“ У КІНО.

**За аповесьцю М. Чарота.**

Я і мой таварыш, Лявон Хвасьцюк, вось ужо некалькі гадзін сядзелі над часопісамі „Маладняк“ за 1924-ы год і чыталі цікавую аповесьць М. Чарота—„*Грышка Сьвінапас*“.

Перад намі мігалі вобразы белапольскай акупацыі, партызанскага руху, кепскага становішча сялян...

Мы чыталі аб тым, як малады, вясковы сьвінапас, Грышка, стаў у часы белапольскай акупацыі на чале партызанскага руху, як аб Грышку ведалі ня толькі ўсе сяляне, але—і белапалякі. Мы чыталі аб Грышку абаронцы сялян, аб Грышку—народным гэроі.



Трывога.

З захапленьнем прачыталі мы гэтую аповесьць, а прачытаўшы доўга яшчэ ўспаміналі ўсе цікавыя мейсцы аповесьці, па некалькі раз іх перачытвалі.

— А ці ведаеш, Мікола, — раптам зьвярнуўся да мяне Лявон,—зараз у Прылуках*) ідзе здымка кінастужкі па гэтай аповесьці.

— Але,—адказаў я і ўспомніў, як усяго два дні назад я чытаў у газэтах аб тым, што кіно-экспэдыцыя, якая прыехала з Масквы, пачынае рабіць здымкі „Грышкі Сьвінапаса“ ў Прылуках.

Лявон зараз-жа перадаў мне ўсе падрабязговасьці аб тым, як ідзе здымка, і тут-жа ўнёс прапанову зьезьдзіць на здымку.

Я згадзіўся.

**На здымку.**



Грышка кідае гранату ў польскі атрад.

Цягнік, уздыхнуўшы, застанавіўся на маленькім разьезьдзе па дарозе на станцыю Фаніпаль.

Некалькі вёрст шляху па залёным пуцінкам, праз фальваркі, вёскі і перад намі Прылукі. У вярстох 3-4-х ад нас засталася чугунка і ў 17—Менск.

Дык гэта Прылукі? Наш погляд прабягае па раскошным палацам у стыле сярэднявякоўя з зубчатымі вежамі, зялёным гушчарам вакол іх, з сталетнімі дрэвамі, узгор'ямі, лагчынамі, абрывамі..

Мы з Лявонам падыходзім да мейсца здымкі.

З першага разу было няпрыемна глядзець на той малюнак, які адчыніўся перад намі. Нам было дзіўна глядзець, чаму гэта польскі афіцэр вядзе такую прыемную гутарку з партызанам, а дачка багатага пана расчэсвае смоль валасоў сваёй служанкі. Гэта артысты. Яны адзеты пасялянску, маюць даўгія бароды, валасы, простыя сьвіткі, лапці...

**У волі капрызнага сонца.**

На здымку мы прыехалі ў няўдалы момант. Сонца толькі хвілінамі выглядае з-пад сівых нададеньніх хмар.

Сёньня пахмурна і йстужка можа выйсьці пахмурнай. Бяз сонца здымкі нельга праводзіць. Але час дарма не праходзіць, хоць і няма сонца.

Праводзяцца рэпэтыцыі. Вось сялянскія хлапцы (цяпер артысты) пад кіраўніцтвам рэжысэра, Тарыча, рассыпаліся па полі, ляцяць праз лес, лазяць на дрэвы... Сярод іх вылучаецца гібкая фігура Грышкі Сьвінапаса. Ён з спрытам лезе на дрэва, пасьля скача з яго, прабіраецца каля польскага вартаўніка-жаўнера... Вось яны скончылі.

Група артыстых, разьмясьціўшыся на прыгорку, сьпявае беларускія песьні... На палянцы некаторыя з іх вывучаюць асобныя рухі. Неяк сумотна артыстам бяз сонца—няма працы.

Да нас падыходзіць Грышка—гэта малады артысты—Данілаў,—яму толькі 18 год. На кінопрацы ён ўжо чацьверты год. Здымаўся у вядомых істужках, як: „Крыльлі халопа“, „Іоан Грозны“ і г. д. Распачынаецца гутарка.

*) Маёнтак (? ) — Мяйсцовасьць недалёка ад Менску.

Мы з Лявонам пытаемся, ці задавальняе яго кіно-праца.

— Задавальняе. Але працаваць цяжка. Ня рэдка прыходзіцца кідацца ў воду, лазіць па абрывам, дрэвам... Вось, напрыклад, ўчора я здымаўся у трудным моманце. Здымалі некалькі раз, але ўсё ня выходзіла. На чацьверты раз добра вышла, але скончыць не ўдалося — зайшло сонца. Прышлося яшчэ многа памучыцца, — апавядае Данілаў.

**Сонца! Сонца!**

Чырвонаармеец, які конна прыехаў з саўхозу, прыносіць радасную вестку:

— Праз пяць хвілін будзе сонца.

Рэхам па пушчы пракаціўся адзінокі стрэл з рэвальвэру... і замёр.

З усіх старонак зьбягаюцца артысты.

Сьвісткі, крыкі:

— Сонца!.. Сонца!..



Грамада сялян; справа Грышка.

Пачынаецца сьпешная падрыхтоўка. Опэратар возіцца каля здымачнага апарату, памоцнікі рэжысэра устанаўляюць бронзавыя шчыты, якія, адбіваючы праменьні сонца, будуць лепш асьвятляць твары артыстаў.

Сонца, усьміхнуўшыся, выглянула з-за хмаркі.

Сяброўскія гутаркі зьнiклі. Затрашчалі ружэйныя стрэлы, загарэўся бой. То там, то сям відаць бойкі партызан з палякамі. Кіно-апарат працуе без адпачынку.

**Як робяцца „галаваломныя“ трукі.**

Нам дзіўна бывае часамі глядзець на палатне ў кіно галаваломныя трукі, калі гэрой фільмы з усёй сілы паўзе на крутую скалу, ці скідаецца з абрыву ў вадаспад.

А робіцца гэта вельмі проста. Прыкладна, гэрой стужкі—Грышка—паўзе па невялічкаму скату. Апарат у гэты час знаходзіцца на высокім дрэве ў нахіленым становішчы. На гатовай-жа фільме ствараецца ўжо ўражаньне, што Грышка з вялікімі труднасьцямі паўзе па крутому абрыву.

Але вось Грышку трэба зьняць у той час, калі ён шалёна коціцца ўніз па гэтаму-ж абрыву. Дзеля гэтага, Грышка толькі зьлёгку куляецца па роўнай зямлі, а апарат з дрэва, зьлёгку варушачыся з боку ў бок, зьнімае гэты „галаваломны трук“, далей на самым страшным для гэроя мейсцы апарат спыняе сваю працу, Грышка перастае куляцца і замест яго спушчаецца ўніз адзетая драўляная лялька і апарат ізноў працуе. У гледача складаецца ўражаньне, што нібы сам Грышка Сьвінапас ляціць уніз пад пагрозай скруціць сабе галаву.

**Дамоў!**

Вечарам бойкі і крыкі сьціхаюць. Артысты разыходзяцца. Для вакольных сялян працуе кіно-перасоўка, альбо артысты ставяць спэктаклі.

А мы з Лявонам накіроўваемся на станцыю, і доўга па дарозе успамінаем аповесьць Чарота, здымку, белапольскую акупацыю і многае другое, зьвязанае са здымкай.

Язда на чыгунцы і—мы ў Менску.

У 2-х—3-х вярстох ад нас засталася чугунка і ў 17-ці—Прылукі, тыя Прылукі дзе цяпер здымаецца „Грышка Сьвінапас“, дзе цяпер так яскрава ўспамінаюць аб тым, што было ў нас на Беларусі ў часы белапольскай акупацыі.

**М. Таўбэ.**



# НАША ЖЫЦЬЦЁ

Янка Кашкель

## Сьвяткаваньне Міжнароднага Дзіцячага Тыдню.

(*Менск*).

Падрыхтоўчая праца да сьвята пачалася ў першай палове жніўня. У ва ўсіх атрадах адбываліся гутаркі на тэму аб МДТ. На занятках зьвеньняў праводзіліся чыткі аб жыцьці і працы піонэраў і пролетарскіх дзяцей за мяжой. Піонэры кожнага атраду падводзілі вынікі сваёй працы за год і абмяркоўвалі, як ажыцьцявіць тыя задачы, якія высоўвае перад намі Міжнародны Дзіцячы Тыдзень.

5-га верасьня, у дзень Міжнароднага Юнацкага Дню, усе атрады ўдзельнічалі ў агульна-комсамольскай дэмонстрацыі. У садзе „Профінтэрн" адбываўся мітынг, дзе было зачытана прывітаньне Менскай піонэр-організацыі ад піонэраў Нямеччыны. Трымаць пісьмовую сувязь з нямецкімі піонэрамі даручана атраду пры Наркамасьветы.

Піонэры таксама прысутнічалі на адчыненьні помніка правадыру комуністычнай моладзі, Карлу Лібкнэхту. Пасьля гэтага стройнымі шэрагамі рухаліся па гораду разам з комсамольцамі.

6-га і 7-га верасьня некаторыя атрады наладзілі вечары, прысьвечаныя МДТ.

**Яз. Лявонаў.**

## Апошні касьцёр.

(*Вушачы, Полацкай акругі*).

Весела йшлі піонэры ў вёску Бутоўшчыну, дзе павінна была адбыцца гутарка ля агню сумесна з сялянскімі піонэрамі.

Прышлі...

— Ну, хлапцы, пойдзем зьбіраць гальлё,—сказаў павадыр. Жыва рассыпаліся піонэры па лесе. Зьбіраюць гальлё. Хто галіну, хто палена, хто шыпульнік. Набралі вялікую кучу гальля. Было яшчэ сьветла, а за гэтым не хацелі раскладаць агню, а пачалі гуляць. Сонца схавалася за небасхілам. Зрабілася цёмна і халаднавата.

— Будзем падпальваць, — загаварылі хлапцы.

Усе селі навакол гальля і пачалі сьпяваць. У гэты час адзін піонэр падкладваў агонь.

Весела затрашчэла гальлё, асьвятляючы вясёлыя твары піонэраў.

— Ну, будзем чытаць!—сказаў павадыр.

Чыталі кніжку „У кастра", „Аб Міжнародным Юнацкім Дні". Калі кончылі чытаць ужо значна зьменшыўся агонь... Зноў пачалі сьпяваць.

Разам з намі было многа вясковых дзяцей.

Вясёлыя, здаволеныя зьвярталіся піонэры дамоў.

**Піонэр.**

## Што мы зрабілі за лета.

(*м. Старобін, Слуцкае акр*).

Галоўным чынам нашы атрады зьвярнулі ўвагу на аздараўленьне свайго організму. Атрады за ўвесь летні пэрыод зьвярнулі ўвагу на агульна-карысную працу і таксама на выхаваўчую працу атраду. У мястэчку ўжо організавалася адна група акцябрат, у якой налічваецца 35 дзяцей. Ячэйка КСМ вылучыла піонэра-комсамольца на гэтую працу.

Праца сярод неорганізаваных дзяцей таксама ўзмацнілася. У бібліотэках нашых атрадаў запісана шмат неорганізаваных дзяцей. Піонэры вядуць з імі гутаркі аб піонэр-організацыі і г. д. За ўвесь летні пэрыод піонэр-атрады мястэчка шмат працавалі і ў вёсцы. Нашы піонэры бралі шэфства над вясковымі піонэр-атрадамі. Праводзілі сходы бацькоў, давалі бібліотэчкі і наогул дапамагалі ў працы гэтых атрадаў. Таксама нашы піонэры працавалі ў розных савецкіх організацыях, дапамагалі гэтым організацыям у іх працы: наладжвалі там піонэр-куткі і г. д. Была зьвернута ўвага і на фізычнае выхаваньне. Бацькі вясковых дзяцей пачалі добра адносіцца да піонэраў.

На будучы час трэба працу яшчэ болей пашырыць.

**М. Варшал.**



**На Сьвіслачы.** (З фотогр. П. Гутkоўскага).

## Дзе павінен быць школьны коопэратыў?

(*Атрад імя Варашылава, Полацкай акругі*).

Пачынаецца школьнае жыцьцё, а разам з гэтым будаваньне школьных коопэратываў. У мінулым годзе шмат хто казаў, што школьныя коопэратывы не патрэбны таму, што вучні могуць купіць школьныя прылады ў агульным коопэратыве. Але гэта больш падыходзіць да местачковых і гарадзкіх школ. У вёсцы, наадварот, школьны коопэратыў патрэбен. Справа ў тым, што вясковая школа амаль што заўсёды знаходзіцца ад коопэратыву на працягу 5-10 вёрст. Пры такіх школах школьны коопэратыў—рэч неабходная. Бо іначай вучням прыходзіцца хадзіць за 5-10 вёрст, каб купіць сабе аловак, або сшытак*).

**Волькінд.**

## Гурток працуе.

(*м. Грозаў, Грэскага раёну, атрад імя Калініна*)

У чэрвені месяцы пры насьценнай газэце нашага атраду організаваўся гурток дзіцячых корэспандэнтаў. Быў абмяркаваны плян працы, па якім гурток увесь час працуе. Амаль што ўсіх піонэраў атраду і неорганізаваных дзяцей гурток ахапіў і зацікавіў сваёй працай. На занятках гуртка праводзяцца гутаркі на розныя тэмы: „Як пісаць корэспандэнцыі" і г. д.

Быў утвораны суд над сьценгазэтай атраду, дзе ўсе пабачылі дасягненьні і недахопы сваёй газэты.

Мы спадзяемся, што праца гуртка, якая пачалася ўлетку, будзе праводзіцца і зімой.

**Г. Фэдар. Р. Сагаловіч.**

## Зьнішчаем няпісьменнасьць.

(*Полацак, Вушачы*).

У нашым атрадзе ёсьць некалькі няпісьменных хлапцоў. Бацькі іх не маглі вучыць за адсутнасьцю сродкаў. Дзеля зьнішчэньня няпісьменнасьці сярод піонэраў атрад вылучыў некалькі старэйшых хлапцоў, якія займаюцца з няпісьменнымі. На занятках па ліквідацыі няпісьменнасьці прысутнічае 12 чалавек. Бацькі гэтым задаволены і прыносяць нам сваю падзяку.

**Піонэр.**

## Працуюць на словах.

(*15 атрад, м. Багушэвічы*).

Пры 15 атрадзе яшчэ з вясны організаваліся пікор-гурткі, але ў гэтых гуртках ніякай працы не вядзецца, ня гледзячы на тое, што аб гэтым часта гаварылі. Удзел іх у насьценнай газэце зусім слабы, у большасьці працуе адна рэдколегія.

Кіраўнікі гурткоў **Гласаў і Аронаў** і ня думаюць узяцца за працу

Трэба іх разбудзіць, каб праца праводзілася ня толькі на словах, але і на справе. **У. Сянькоўскі.**

## Больш добрых бакоў.

Наш атрад організаваўся 14-га сакавіка 1926 г. За ўвесь час свайго існаваньня ён выпусьціў 4 нумары газэты. Організаваў куток МОПР'а і куток Ільліча. Кожны тыдзень у нас праводзіцца збор атраду, а таксама зборы зьвеньняў і савету атраду. Праца йдзе ў нашым атрадзе добра. Сувязь з дзіцячым бюро таксама добрая. Газэты выходзяць раз у два тыдні. У зімовы час наладжваліся спэктаклі, у якіх прымалі удзел комсамольцы і піонэры. Ня так даўно ў нашым атрадзе быў старшыня дзіцячага бюро піонэраў і рабіў агляд нашага атраду. Разам з гэтым ён адзначыў больш добрых бакоў у працы атраду.

**Н. Левіна.**

## Ня выконваюцца абавязкі.

(*Зембінскі атрад імя Ігнатоўскага*).

Наш 31 атрад ужо 2 гады як організаваўся. але праца йдзе слаба, бо старэйшых піонэраў перадалі ў комсамол. Гэтыя піонэры-комсамольцы ніякага ўдзелу ў працы ня прымаюць, а малодшыя ня могуць браць на сябе шмат абавязкаў. Старэйшыя піонэры якіх перадалі ў комсамол, лічаць сябе не піонэрамі і ня носяць



гальштукаў, не аддаюць салюту, зусім забыліся пра яго, а пра законы, дык і ўспамінаць ня хочуць. Ніводнага разу наш атрад не хадзіў у вёску, каб пагутарыць з неорганізаванымі дзецьмі. Трэба нашаму атраду больш сур'ёзную ўвагу зьвярнуць на працу.

**Н. Вярбовіч.**



Група вясковых дзяцей.

## Ці патрэбны піонэр.-бібліотэкі?

У большасьці местачковых і вясковых атрадаў маюцца піонэр-бібліотэкі, якія налічваюць па 60-100 кніжак. Гэтыя бібліотэкі знаходзяцца часта ў паасобных сяброў.

Ці даюць гэтыя бібліотэкі карысьць?—Не.

Справа ў тым, што там, дзе ёсьць піонэр-бібліотэкі, ёсьць і хата-чытальня. Загэтым піонэры ня йдуць браць кнігі ў сваю бібліотэку, а йдуць у хату-чытальню.

Я лічу, што бібліотэкі пры атрадах трэба перадаць у мяйсцовыя хаты-чытальні.

**Волькінд.**

## Восень.

Не палае ў далях
Сонечны пажар—
Дождж сячэ у вочы,
Дождж сячэ у твар.
Паапалі з дрэваў
Жоўтыя лісты.
Як кудзеля, хмары
Зьвісьлі за гарой.
А у сэрцы юным,
Сэрцы маладым
Не астыла раньне,
Не астыла кроў!

**Сяргей Грахоўскі.**

*) У чарговым нумары будзе зьмешчаны артыкул аб гэтым пытаньні. *Рэд.*

# ЯК ПРАЦАВАЦЬ ДЗЕТКОРГУРТКУ.

Дзіцячы корэспандэнцкі гурток можа быць арганізаваны па жаданьню дзяцей пры кожным атрадзе, пры кожнай школе, дзе маецца насьценная газэта.

Перш чым арганізаваць гурток, трэба зьвярнуцца ў комсамольскую ячэйку і ў райбюро, якія вылучаць кіраўніка і дадуць належныя інструкцыі, як працаваць.

Запісацца ў коргурток могуць усе жадаючыя дзеці атраду або школы як корэспандэнты, гэтак і тыя, што яшчэ ня пішуць, але цікавяцца і жадаюць стаць корэспандэнтамі. Першым заняткам гуртка будзе арганізацыйны сход, на якім трэба абгаварыць плян працы і абраць сакратара. Сакратар, ці староста вядзе тэхнічную працу, гэта значыць, рэгіструе прысутных на занятках, запісвае ўсю працу гуртка ў асобны дзеньнік і г. д.



Усе за выпіску „Беларускага Піонэра“.

*У чым-жа будзе выяўляцца праца гуртка?* Перш за ўсё мы павінны ўстанавіць, што *цэнтрам, асяродкам працы зьяўляецца насьценная газэта.* Гурток трымае шчесную сувязь з рэдкалегіяй (апошняя павінна ўваходзіць у склад гуртка), разглядае вышаўшы нумар насьценнай газэты, абмяркоўвае яго дрэнныя і добрыя бакі, намячае плян будучага нумару. Калі газэта, як гэта часта сустракаецца ў шмат якіх атрадах, мяня цікавая, або выходзіць адзін раз у некалькі месяцаў, гурток высьвятляе прычыны гэтага зьявішча і вышуквае меры, каб газэта якасна палепшылася, каб акуратна і своечасова выходзіла (прыкладна 1 раз у месяц). Сябры гуртка зьяўляюцца бліжэйшымі супрацоўнікамі сваёй насьценнай газэты, а таксама зьяўляюцца дапісчыкамі цэнтральных („Беларускі піонэр“ і інш.) Яны выпісваюць пэрыодычны піонэрскі друк (газэты і часопісі) і за падпіску на апошнія агітуюць у атрадзе і школе.

Акрамя вышэйпамянёнай працы *члены гуртка павінны займацца вучобай.* Пад вучобай мы разумеем пашырэньне яго светапогляду, набыцьцё ім розных ведаў і азнаямленьне з друкам. Дзіцячы корэсп. павінен ведаць для чаго існуюць газэты і друкаванае слова, якое іх значэньне. Карысна будзе, калі ёсьць магчымасьць, пайсьці на экскурсію ў друкарню, у горадзе, паглядзець як друкуюцца газэты і часопісі. Трэба ведаць якія ў нас маюцца галоўныя газэты, партыйныя, комсамольскія, дзіцячыя. Хто такія: рабкор, селькор і юнкор, аб чым яны пішуць.

І самае галоўнае: дзіцячы корэспандэнт павінен навучыцца пісаць свой артыкул або допіс так, каб ён быў цікавы і карысны. Каб у ім была вызначаная думка, конкрэтная прапанова, жывая, лёгкая мова і г. д. Трэба ведаць аб чым пісаць, што ў наступны момант цікавіць тваіх таварышоў і ўсю дзіцячую масу. Іначай кажучы, трэба *навучыцца працаваць над творам*, думаць над ім, ня пісаць насьпех. Толькі тады твае творы стануць цікавымі і будуць зьмяшчацца рэдакцыямі піонэрскіх выданьняў. Дзіц. кор. павінен памятаць, што сваёй вучобай і працай ён рыхтуе з сябе будучага юнкора, а можа рабкора ці селькора.

**І. Зэльцар**

# Майструю

Б. Прыймак

Надыходзіць восень, а там, глядзіш, і зіма. Уся праца піонэраў, якая ўлетку праводзілася на дварэ, на чыстым паветры, дзе-небудзь у садзе, павінна быць перанесена ў клюб. У зьвязку з гэтым піонэрам прыдзецца падумаць і над абсталяваньнем свайго клюбу, бо шмат дзе клюбы нашы зусім не прыстасаваны да працы: няма сталоў, шафаў, скамеек, палічак і г. д.

Каб парабіць ўсё гэта для свайго клюбу, трэба



Мал. № 1.

ведаць які струмант патрэбна мець пры рабоце, а далей, пачынаючы з лёгкіх рэчаў, пераходзіць да больш складаных. Перш-на-перш трэба мець гэтак званы варстат.

Калі вы ня маеце магчымасьці набыць варстату, тады можаце рабіць усе патрэбныя вам рэчы на якой небудзь лаўцы альбо дошцы. На адным канцы гэтага струманту трэба прыбіць невялікую дошку, каб да яе можна было ўпіраць тую дошку, якую вы будзеце стругаць.

### Вешалка для адзежы*).

Для першага разу возьмем вешалку (мал. № 1) для адзежы, бо гэта работа будзе больш простай. Трэба ўзяць дошку адпаведнай даўжыні, шырыню можна ўзяць на вяршкоў 4. Дошку з абодвых бакоў трэба роўненька выстругаць, спачатку шархублікам, далей рубанкам, а потым выраўнаць гэблікам. Канты дошкі можна рубанкам трохі зрэзаць, зрабіць трохі кругляватымі. Пасьля гэтага трэба вызначыць месца, дзе павінны тарчаць палачкі вешалкі і вызначыць квадрацікі для дзірак (гнёздаў). Долатам высячам гэтыя гнёзды для палачак.

Калі ўсё гэта будзе зроблена, нарабеце адпаведную колькасьць палачак, у даўжкі якія павінны быць ня болей трох вяршкоў, таўшчынёй ня больш $^1/_2$ вяршка. На канцы зрабеце галоўку, каб адзежына, павешаная на яе, не змагла падаць далоў. Калі палачкі ўжо зроблены, трэба гарачым цясьлярскім клеем змазаць гнёзды і забіваць памалу палачкі, малатком, зробленым з дрэва так, каб ня трэснула і не пакалолася дошка. Калі палачкі ўбіты, дайце магчымасьць клею высахнуць у цёплым мейсцы, шкляной паперай пачысьціце вашу работу, пафарбуйце і будзе гатовай вешалка, якую можна прыбіць або прывесіць на сьцяне вашага клюбу.

### Рамачка для портрэтаў.

Пасьля гэтага вам напэўна захочацца нарабіць рамачак да малюнкаў і портрэтаў. Тут лепш за ўсё купіць гатовага матар'ялу, які прадаецца ў выглядзе простых палак, адрэжце сабе чатыры кускі ад гэтае палкі адпаведна вялічыні портрэту, абрэжце канцы вашых палак пад кутом 45°/о. Цяпер канцы змажце гарачым клеем і замацуйце цьвікамі. Высушце і рамка гатова.

### Лава.

Цяпер пярэйдзем да больш цяжкой працы, тут ужо трэба, як кажуць, „трохі набіць руку“.

Бяруць дошку адпаведнай даўжыні, прыблізна ½-1 вяршок таўшчыні. Для доўгай лавы трэба браць таўсьцейшую дошку. Для ножак бяруць яшчэ дзьве дошкі вяршкоў на 10, пры гэтым для ножак трэба браць дошкі вяршкі на два шырэйшыя ад першых, ад дошчак, якія мы бралі для самой лавы. Ножкі з зазначаных вышэй дошчак, як гэта паказана на малюнку 2, прымацоўваюцца з невялічкім нахілам, кожная двумя шыпамі, даўжынёю да 11 вяршкоў. Выдзяўбаць дзіркі, або гнёзды для шыпоў трэба ўважна, каб нахіл быў аднолькавы. Калі з клеем шыпы будуць убіты ў дошку, тады іх замацоўваюць зьверху клінкамі, робячы зьверху шыпоў долатам шчыліну і туды з клеем забіваюць невялічкія клінкі з дрэва.



Мал. № 2.

Каб ножкі добра трымаліся, іх яшчэ ўмацоўваюць раскосінамі з дрэва, або планкамі таўшчынёю ў адзін вяршок, даўжынёю вяршкоў 14. На кожнай ножцы з аднаго боку на 7 вяршкоў ад верхняй дошкі па вугольніку праводзіцца рыска, тут выразаецца з боку гняздо для аднаго канца раскосіны так, каб другі канец увайшоў у гэткае самае гняздо канту верхняй дошкі. Раскосіны прыбіваюць 1-$^1/_2$ вяршковымі цьвікамі, а каб не пакалоліся яны, трэба сьвярдзёлкам накруціць дзіркі для цьвікоў. Каб ня відаць было гэтых раскосін, можна на канцы з абодвух бакоў ножкі прыбіць маленькую дошку таўшчынёю $^1/_2$ вяршка, гладзенька яе абстругаць, як гэта паказана на малюнку № 2.

---

*) Як зрабіць стол, табурэтку і палічку глядзі ў № 7 „Б. П.“ за 1925 г.

# З ПРАКТЫКІ СТАРОГА ПАЛЯЎНІЧАГА НА ВАЎКОЎ.

*(Па Віцебскай, Пскоўскай і Смаленскай губэрні).*

У вапошнія гады лік ваўкоў у лясох Заходняй і цэнтральнай часткі нашага Саюзу вельмі павялічыўся. Шкода, якую прыносяць гэтыя дужыя, абжорлівыя і хітрыя зьвяры, куды большая, чым гэта здаецца на першы погляд. У нашых лясох знаходзіцца ня так многа буйнай дзічы, каб яе хапіла для пракармленьня ўсіх ваўкоў. Так што яны павінны карыстацца дасягненьнямі людзкой гаспадаркі. Порцыя яды для дарослага ваўка—адзін баран або двое парасят на тыдзень пры выпадковым зайчыку. Такім чынам адзін толькі воўк за лета зьесьць дваццаць бараноў або 40 парасят. Але гэта яшчэ ня ўсё. Ваўчыца кожны год прыносіць ня менш 6 ваўчанят, з якімі яна не разыходзіцца аж да жніўня. Разам з гэтым корміць сям'ю воўк. Так што, калі ён наскочыць на стадак дробнай жывёлы, ён ніколі не здавальняецца адной ахвярай, а забівае колькі можа для запасу. Адсюль зразумела, якое вялікае гаспадарчае значэньне мае зьнішчэньне гэтых драпежнікаў.

Па нагляданьнях за час доўгадовай практыкі трэба сказаць, што добрага посьпеху можна дабіцца толькі двума напрамкамі поляваньня, адзін з якіх можа скарыстоўвацца ўвосень, а другі ўзімку. Абодвы гэтыя напрамкі падыходзяць толькі да калектыўнага і організаванага паляваньня.

Для васеньняга паляваньня трэба даведацца ў пачатку жніўня аб тым, дзе знаходзяцца воўчыя сем'і, азнаёміцца з мяйсцовасьцю, каб прыблізна ведаць у якім мейсцы павінен знаходзіцца бярлог ваўкоў, які заўсёды знаходзіцца блізка каля праточнай вады. Даведацца, дзе знаходзяцца ваўкі можна шляхам організацыі разьведкі. Вопытны паляўнічы, які можа выць, як воўк, кіруе разьведкай. Разьведчыкі разыходзяцца ў розныя бакі. Калі ўсе будуць на мяйсцох, галоўны паляўнічы зацягвае сумную воўчую песьню ня больш двух разоў. Калі малыя ваўкі пачуюць гэтую песьню, яны адказваюць на яе цэлым хорам і гукі іх тонкіх галасоў далёка разносяцца ў начной цішы. Разьведчыкі адзначаюць значкамі на дрэвах, або ўваткнутым у зямлю гальлём па якіх напрамках яны чулі хор ваўчанят. Гэта самае паляўнічыя паўтараюць на другі дзень да ўсходу сонца. Пасьля гэтага разьмяркоўваюць мейсцы, дзе паставіць паляўнічых.

Раніцай, у дзень аблавы, разьведчыкі робяць абход па вызначаных напрамках, адмяраючы крокамі даўжыню мяйсцовасьці, якую займаюць паляўнічыя. Пры гэтым нельга рабіць аніякага шуму і нельга падыходзіць да ваўкоў бліжэй, як 400-500 крокаў.

У поўдзень, калі ўся воўчая сям'я ў зборы і адпачывае, паляўнічыя і запрошаныя загоншчыкі падымаюць шум і ідуць паступова па вызначанаму напрамку. Пасьля першага стрэла загоншчыкі павінны ўзмацніць крык і шум, але далей ня йсьці. Лепшы час для асеньняй аблавы—другая палова жніўня, бо ў верасьні ваўчанята пачынаюць ужо выходзіць пад кіраўніцтвам старых ваўкоў. На гэткіх аблавах часта забівалі 6-8 ваўкоў.

Паляваньне зімой патрабуе больш страт, чым увосень.

Маладыя ваўкі робяць напад на вёскі ў раёне ад 15-да 25 вёрст. У гэты час яны здабываюць сабе яду. Апрача гэтага яны робяць свае аблавы на гончых сабак і на лісіц і г. д.

Задача практычнага паляўнічага—ведаць тыя шляхі, па якіх ваўкі болей усяго робяць свае абходы. Потым трэба набраць бракованых коней, забіць іх і іхняе мяса палажыць дзе-небудзь каля вёскі. Ваўкі, калі знойдуць гэткія скарбы для сябе, то будуць есьці колькі гэта магчыма. Потым, не адыходзячы болей 2-3 вёрст, кладуцца на адпачынак. Галоўны, паляўнічы з памочнікам абыходзяць ваўкоў, адзначаюць тыя мейсцы, дзе павінны знаходзіцца паляўнічыя, а таксама і вежы. Аблава робіцца таксама, як і асеньняя, толькі з той розьніцаю, што ваўкоў абыходзяць амаль што заўсёды без загоншчыкаў.

**А. Вэйдліх.**

## Заморскі зьвярок.

Гэты маленькі зьвярок называецца *Апоссу*. Ён прыехаў да нас з далёкай Амэрыкі на зьвязцы бананаў—фруктаў, якія вывозяцца ў Эўропу. Аб разьмеры яго можна казаць па руцэ чалавека, на якой ён сядзіць. Ён займае толькі два пальцы, за якія, вылупіўшы круглыя вочкі, учапіўся сваімі лапамі. Другой рукою чалавек трымае яго за хвост, каб ён ня ўцёк.

Такія выпадкі бываюць вельмі часта, калі на параходах або цягніках з мейсца на мейсца пераязджае розная жывёла. Апоссу выпадкова папаў ў бананы. Яго пагрузілі ў параход і знайшлі ўжо далёка ад яго бацькаўшчыны.



Апосу.

Вельмі часта пацукі і мышы вялікімі атрадамі пераязджаюць з мейсца на мейсца ў мяшкох з мукой або ў другіх рэчах. Выгружаюцца разам з імі і пачынаюць жыць на сваёй новай бацькаўшчыне.

Асабліва няпрыемна для людзей, калі пераязджаюць пацукі, таму, што сярод усіх гэтых дробных зьвяроў найбольш шкоднымі зьяўляюцца яны, бо яны ня толькі псуюць прадукты, але, разам з гэтым, разносяць заразныя хваробы, асабліва чуму.




# НЯМЕЦКІЯ СПАРТАКІ Ў ХАРКАВЕ.

Цяпер у Маскве знаходзяцца дэлегаты нямецкіх спартакоў (піонэраў). Кожнаму нашаму піонэру цікава пабачыць сваіх замежных братоў. Але гэта не для ўсіх магчыма. Добра было-б, каб усім давялося пабачыць іх хоць на фотографіях.

Вось яны: Рыхарт, Эрна, Вільлі. Гэта тыя таварышы, якія цяпер працуюць падпольна, баючыся паліцыі. О, як бы хацелася пабачыць іх зараз, у дні сьвяткаваньня Міжнароднага Дзіцячага тыдню, пагутарыць з імі аб жыцьці замежных дзяцей!

Хутка разьнеслася радасная вестка сярод усіх піонэраў горада Харкава: „*Сяго́ньня будуць праяз-джаць праз Харкаў з Крыму ў Маскву нямецкія дзеці*“.

Яшчэ раней, за дзьве або тры гадзіны да прыхода цягніка ў Харкаў, на станцыі было шмат народу. Сюды прышлі прадстаўнікі Цэнтральнага Дзіцячага Бюро, прадстаўнікі рэдакцый і шмат іншых. Усім цікава бачыць дэлэгатаў. Усе піонэры жадаюць паслухаць іх. Пад гучны гром бэрабана высыпала на пэрон*) Харкаўская піонэрыя.

— У ногу, таварышы! Раз, два, левай!

Трохі адпачнулі, і давай сьпяваць песьню, прысьвечаную Міжнароднаму Дзіцячаму Тыдню. Гучна разносяцца сьпевы юных піонэрскіх галасоў:

„Дети, всех стран, всех народов, всех наций.
Дружно сплотимся в один хоровод!“.

Чакаюць...

Некаторыя вывучаюць словы прывітаньня на нямецкай мове. Сотні вачэй кожную хвіліну ўглядаюцца ў даль чыгункі...

— Едуць, едуць!—раптам пачулася навокал і, сапраўды, вялікі цягнік падыходзіў да нас з доўга-чаканымі дэлегатамі. Вось вагон ужо каля нас, а вось у вакне паказаліся тры юных вясёлых спартакаўцы.

— Будзьце гатовы!—заклікаюць яны Харкаўскіх дзяцей.

Устрывожаная грамада захісталася. Напіраюць на вагон. Кожнаму хочацца як лепш разгледзець тых, хто прывёз братэрскае прывітаньне з далёкай краіны, дзе і цяпер пануе цяжкая лапа капіталу.

— Цішэй!—слова даецца Нямецкаму дэлегату Вільлі. Навакол зрабілася ціха, усе з вялікай увагаю слухаюць.

— „Піонэрэн,—пачаў 13-ці гадовы спартакавец з драбінак вагону:—Мы вельмі здаволены пабыць сярод Украінскіх піонэраў сягоньня, у дзень сьвяткаваньня МДТ.

„Мы яшчэ і цяпер працуем падпольна, дапамагаючы нашым старэйшым братом і бацьком у іх працы і змаганьні. Мы дзеці замежных краін чакаем ад вас дапамогі. Будзьце гатовы! Хай жыве Міжнародны Дзіцячы Тыдзень! Хай жывуць піонэры ўсяго сьвету!“

Усе падхапілі яго апошнія словы дружным і гучным „ура“.

Пасьля перакладчыка выступіў з прамовай Украінскі піонэр. У яго словах адчувалася падрыхтаванасьць да братэрскай дапамогі ня толькі ў дні Міжнароднага Дзіцячага Тыдню, але й на ўвесь час вялікага і ўпартага змаганьня з капіталам. Кончыў ён сваю прамову наступнымі словамі: „Хай жыве братэрскае яднаньне ўсяго сьвету“. Хай жыве Міжнародны Дзіцячы Тыдзень!“

Пасьля гэтага сумесна з дэлегатамі сьпявалі „Інтэрнацыянал“. Сьпявалі на розных мовах, але значэньне яго было адно: міжнародны гімн барацьбы супроць капіталу за вызваленьне рабочых і сялян.

Раптам нехта з грамады ўнёс прапанову: „Хай яны самі прасьпяваюць свой гімн“.

Спартакаўцы адразу здаволілі просьбу піонэраў. Усе з вялікім захапленьнем слухалі іх песьню.

Цягнік стаіць яшчэ 10 хвілін. Усе сьпяшаюцца. Кіраўнік дэлегацыі, комсамолец, піша прывітаньне Украінскім піонэрам.

— Станавіся!—камандуе павадыр. Усе падрыхтоўваюцца да фотоздымку.

Ізноў пачынаюць сьпяваць. Разносяцца крыкі: „Хай жывуць Нямецкія піонэры!“ *Ура!*

У гэты час раздаецца другі званок. Цягнік крануўся. Украінскія піонэры кідаюць кветкі ў вагон дэлэгатаў...

Доўга яшчэ ўглядаліся піонэры за цягнікам, у якім паехалі замежныя таварышы.

**Зім. Біленка.**

31 жніўня 1925 г. Гор. Харкаў.

*) Пэрон—месца ля станцыі, дзе адбываецца пасадка ў вагоны.

# Піонэрмастак

Янка Кашкель

## Першыя парады пачынаючаму маляваць.

Маляваньне і рысаваньне дапамагаюць чалавеку лепш і больш выразна ўявіць сабе сутнасьць і дэталі таго прадмету, які вывучаецца.

Маляваць—значыць умець бачыць ня толькі форму прадмета, але і ўразумець яго практычнае назначэньне. Чайнік, у якога носік намаляваны ніжэй вышыні рэзэрвуара, не адпавядае свайму практычнаму назначэньню.



Мал. № 3.

Асноўная мэта гэтай працы—вызначыць прыёмы сьвядомага маляваньня.

Малююць часьцей за ўсё алоўкам, затым хварбамі—акварэльлю, клеевымі хварбамі, вуглем, мелам і г. д. Усе гэтыя матар'ялы патрабуюць вядомых умоў дзеля працы.

Першая ўмова—маляваць трэба на роўніцы, нахіленнай да таго, хто малюе. Лепш за ўсё зрабіць, калі дазваляюць умовы, для маляваньня наступную падстаўку (гл. мал. № 1). Такая падстаўка будзе зусім прыгоднай і для бліжэйшых экскурсій.

Пабудова падстаўкі вельмі простая. Бярэцца звычайная фанэра альбо тоўсты картон для паверхні дошкі памерам 50×72 см., прымацоўваецца на пад-



Мал. № 4.

рамак такога-ж самага памеру, які затым прымацоўваецца на петлях да ножак вышынёю 95 см.

У крайнім выпадку, можна абыйсьціся і без падстаўкі проста куском фанэры альбо тоўстага картону памерам 25×30 см., да якога прымацоўваюць паперу цьвікамі па меры неабходнасьці.

Маляваць часьцей за ўсё прыходзіцца седзячы; як маляваць седзячы, паказана на мал. № 2. Такое палажэньне таго, хто малюе, дае магчымасьць добра кантраляваць працу, адстаўляючы яе дзеля параўнаньня з натурай—гэта адзін з каштоўных момантаў праверкі і выхаваньня свайго вока. Апрача звычайнага спосабу маляваньня, трэба маляваць і стоячы. Дзеля гэтага табурэтку пераварачваюць уверх ножкамі, канец падстаўкі ўпіраецца ў ножкі табурэткі і той, хто малюе стоячы, правярае і параўноўвае з натурай свой малюнак, адыходзячы для праверкі па магчымасьці часьцей ад працы, альбо адстаўляючы малюнак проста да натуры.

Набыць навыкі ў маляваньні ня так ужо цяжка. Трэба толькі моцна захацець навучыцца маляваць.



Мал. № 8.

Патрэбныя навыкі можна набыць, калі маляваць кожны дзень хацяб па 10-15 хвілін.

Восень дае нам магчымасьць пачаць маляваньне з прадметаў двох вымераў лістоў, простых па форме і багатых увосень па ахварбоўцы. Возьмем любы ліст простай формы, напр., топаля альбо бэзу і папробуем яго намаляваць. Але перш, чым прыняцца за працу, установім правілы, якія будуць карыснымі дзеля нас у далейшым.

На якую геомэтрычную фігуру падобен даны ліст топаля альбо бэзу? Больш за ўсё на трыкутнік, які мае пэўную вышыню і аснову. Спрабуем намаляваць гэты трыкутнік (мал. 3, **а**).

Затым, разглядаючы ліст, мы знаходзім, што адзін бок яго некалькі большы, шырэйшы, чымсі другі (мал. 3, **б**). Першы малюнак 3, **а**—схэма. Тут мы знаходзім толькі ў агульных рысах асноўныя прапорцыі; часткі ліста—гэта адна з галоўных умоў малюнка даннага ліста. Другая частка працы—гэта ўжо знаходжаньне партрэта ліста. Дзеля гэтага, пра-

водзячы сярэднюю жылку ліста і дзелячы яго трыкутнік на дзьве часткі, часьцей усяго няроўныя, мы ўстанаўляем даўжыню жылкі да агульнай масы ліста-трыкутніка. Разам з рысункамі 3а, б, зьмешчаны малюнкі в, г. Апошнія два малюнкі даюць схэматычны вобраз: першы—стога, другі—двухскатнай страхі. У абаіх, як і ў ліста топаля—фігура трыкутніка.

Першыя малюнкі трэба рабіць хутка, некалькі штук за адзін урок. Першыя малюнкі могуць быць і няўдалымі, але гэта не бяда. Добра перад кожнымі заняткамі на працягу 3-5 хвілін рабіць, не адымаючы рукі ад паперы наступныя фігуры (гл. мал. № 7).



мал. № 7.

Дзеля такіх практыкаваньняў і для маляваньня даўгіх ліній важна ўказаць, як трымаць руку. Звычайна пры маляваньні аловак трымаюць так-жа сама, як пры пісаньні. Гэтак маляваць нельга. Аловак трэба трымаць так, як паказана на рыс. 5. Такое палажэньне алоўка дае большую волю рукам рукі..

Маляваць можна ня толькі алоўкам, але і вуглем, мелам, пэндзлікам—як гаварылася вышэй.

Дзеля таго, зрабіўшы малюнак алоўкам, можна зараз-жа размаляваць яго рознымі хварбамі. У маляваньні важна пастаяннае практыкаваньне вока і рукі.

Возьмем другі прадмет, які таксама лёгка знайсьці пад рукамі—любы матылёк.

Формай матылькоў зьяўляецца трапэцыя, якой мы і пачынаем наш малюнак. Знаходзім, як і пры маляваньні ліста, шырыню і вышыню трапэцыі, шырыня якой будзе трошкі больш яе вышыні. Дзелім затым трапэцыю на дзьве роўныя часткі простастаўнай ліній, на якой і аткладваем асобныя часткі тулава матылька. Вузкае тулава знаходзіцца пасярэдзіне трапэцыі, галава трошкі вышэй сярэдзіны ўсёй вышыні трапэцыі, а жывоцік не даходзіць да ніжніх краёў задніх крыльляў. Застаецца прымацаваць крыльлі вузкімі канцамі да сьпінкі тулава матылька. Да сьпінкі прымацоўваюцца як верхнія, так і ніжнія крыльлі, на што трэба зьвярнуць увагу (гл. мал. № 6).



мал. № 6.

Для азнаямленьня з простакутнай формай добра намаляваць некалькі розных лапат, жалезных і драўляных. Як больш складаны прыклад простакутніка—рама. (рыс. 4 г). Трэба памятаць, што лініі малюнка наносяцца хутка, не арываючы рукі.

Можа зьявіцца пытаньне—дзеля чаго маляваліся лісты, матылькі і г. д?

Ці могуць яны быць скарыстанымі ў далейшай працы сельскага гаспадара.

Адказ адзіны—так, могуць. У некаторых дыяграмах яны проста неабходны. Вось прыклады: вам хочацца паказаць у дыяграме колькасьць зьнішчаных хлебных палёў, палосаў, скажам, „соўкай“ і каб гэта было наводным, вы малюеце ў дыяграме ня толькі кружок альбо слупкі з лічбамі, але і данную „соўку“ і ўсякаму, нават няпісьменнаму селяніну, бачна у чым тут справа.

Добрым матар'ялам для малюнка можа служыць і ліст каштана. Яго асноўная форма—кружок. Разглядаючы ліст, мы бачым, што асноўная форма круга дзеліцца простастаўнай ліній—галоўнай жылкай ліста—на палову, на ёй на адну трэцюю (прыблізна) ад цэнтру знаходзіцца вузел, дзе злучаюцца усе часткі ліста. Далей мы вызначаем кожную паасобную частку гэтага ліста і знаходзім точныя памеры кожнай асобнай дэталі ўсяго ліста. Звычайна сярэдняя частка—самая большая. Затым, папарна зьмяншаючыся, ідуць другія, ніжнія часткі ліста (рыс. 8, I—IV).

Як і ў папярэдняй працы, гэты малюнак можна размаляваць акварэльлю.

Той-жа самы прыём можна скарыстаць і пры маляваньні схэмы каляса. Цэнтр каляса, як правільнага круга, будзе у сярэдзіне гэтага круга. Дзяленьне адбываецца таксама, як і ў першым выпадку, г. з. акружына каляса дзеліцца на дзьве роўных паловы, спачатку простастаўна (дыямэтр), далей паземна. Атрымаем 4 часткі, якія мы зноў можам падзяліць папалам.

*(Працяг будзе).*



мал. № 1.


мал. № 2.


мал. № 5.




**Алесь Якімовіч**—*Гул бубна*. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, ст. 64, цана 12 кап.

У кніжцы зьмешчана пяць невялікіх апавяданьняў: „Гул бубна“, „Шэфы“, Максімка бяспрытульны“, „Юрка“ і „Ля камінку“.

У павяданьні „*Гул бубна*“ паказваецца жыцьцё, думкі і імкненьні двух пакаленьняў у вобразе дзядкоў і іх унукаў—піонэраў. Апавяданьне захапляе сваёй сакавітай і пекнай мовай і шчырай верай бадзёрай моладзі, а часткова і старых, у новае лепшае жыцьцё:

...„І Цімох яшчэ раз, ужо весялей, тромкнуў па бубне. Мацней забразгатала туга нацягнутая скура. І гул яе напомніў яшчэ раз старым аб сьвежай, жыцьцём бурлівай і вясёлай моладзі, якая дружна шагае пад громы бубна кудысь далёка, у нейкі незразумелы для іх, старых, сьвет радасьці і шчасьця чалавецтва“.

Другое апавяданьне „*Шэфы*“ самае большае ў зборніку. Чытаецца яно з вялікім захапленьнем, ад яго нельга адарвацца, як ад прыгожага малюнку маладых перажываньняў і імкненьняў. Тут ўсё жывое.

Апавяданьне напісана, як і першае, так і другія з шырокім размахам маладых адчуваньняў. Адразу адчуваецца, што аўтар сам вышаў з бязьмежных прастораў палёў і таемна-цёмных лясоў Беларусі. Ён сам быў начлежнікам, сам перажыў гэта з дружнай грамадою хлапцоў—гэта ня сказка.

Апавяданьне адбівае барацьбу дзяцей сумесна з піонэрамі, якія прыехалі ў лягэр, супроць папа і кулака Сідара. Гэта апавяданьне на ўсім сваім працягу ўзьнімае паўстанчы дух, абурэньне на кулакоў, паразітаў вёскі, якія, карыстаючыся яе цемрай, накіроўваюць вёску супроць новых пачаткаў жыцьця. Але гэта новае жыцьцё, гэту веру ў лепшае нельга зьнішчыць, яно будзе жыць і сваім жыцьцём прыдушыць тых, хто ідзе супроць яе.

Трэцяе апавяданьне—„*Максімка бяспрытульны*“. (Я хачу кожнае апавяданьне разгледзіць асобна таму, што думкі і тэмы ў кожным з іх новыя-асаблівыя). Гэтае апавяданьне адбівае жыцьцё беспрытульнага Максімкі. У хлапца паміраюць бацькі і ён застаецца адзін на вуліцы, бяз прытулку, бяз хлеба. Ён галадуе, але не становіцца ідэальным. Гэта смелая, моцная натура. Ён ня плача, не галосіць, ня губляецца, не баіцца жалезнага звону матораў, а ласкава заглядае ў вочы тоўстапузым нэпачам, якім мала дзела да яго ірысак, а тым больш да яго самога. І гэтага сьмелага, багатага натурай хлапца, лёс вядзе на правільную дарогу. Якая радасьць, калі ён кідае прадаваць ірыскі і йдзе ў дружную новую сям'ю дзяцей-піонэраў, каб разам з імі жыць адным жыцьцём, захапляцца аднымі імкненьнямі і, разам з гэтым, многамільённай гурбой будаваць новае жыцьцё...

У той час, калі палякі пакідалі Беларусь, яны грабавалі і палілі вёскі, зьдзекваліся над сялянскімі дзецьмі: хлапцоў бралі ў абоз, дзяўчат прымушалі аддавацца сабе, усё гэта рабілася пад бязлітасным панскім бізуном. Кавалачак жыцьця з гэтага часу занатаваны ў апавяданьні „*Юрка*“. Юрка—гэта малады барацьбіт-паўстанец. Гэта запраўдны тып. У той час ня толькі змагаліся і гінулі старыя, але разам з імі і іх дзеці. Юрка сьмелы і рашучы. Калі гэтага вымагае жыцьцё, ён уцякае ад па якаў, каб ня ехаць у абоз, ён нават ня кідае і каня і ня хоча кідаць. Ён кажа: — „Каня трэба выратаваць“.

Але затое якая радасьць, якія перажываньні варушыліся ў яго грудзёх, калі ён сьмелым бадзёрым паўстанцам увайшоў ў вёску, а потым спаткаўся з сваім бацькам. Гэта апавяданьне ўзята проста з жыцьця нашай тагочаснай вёскі. Тут на першым пляне стаяць соцыяльныя матывы прыгнечанай вёскі яе сыноў




Калі ў ранейшых апавяданьнях было змаганьне з панамі, кулакамі і папамі, то ў апавяданьні „*Ля камінку*“ мы бачым, як мінулыя дні нягоды, дні панаваньня паноў адыходзяць у нябыт. Хай-жа скажа кожны змаганец словамі Якіма:

...„Я ня скончыў яшчэ з усімі панамі... Я утаміўся... Расьцеце, дзеткі, і заступайце мой шлях. Дакончыце ўсіх паноў на ўсім сьвеце“...

Разам з тым хай скажуць сыны гэтых змаганцаў-барацьбітоў: „Мы дакончым справу бацькі!“

Гэта ўсё тое, што можна было сказаць пра гэты невялічкі зборнічак.

Трэба ў далейшых выданьнях дзіцячай літаратуры ўводзіць ілюстрацыйны матар'ял—малюнкі чаго ў першай кніжаццы няма.

**М. Мілашэўскі.**




### Задачка слупкоў № 1.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Р | І | Ы | О | П | Э | Н |
| Е | І | І | Ш | П | Ц | Э |
| Л' | Р | А | Ы | П | Ы | С |
| Э | Ц | Д | Е | Й | Р | Ў |
| Ш | К | А | Ц | А | Ю | Ы |
| З | А | А | Д | Р | , | Ы |
| З | А | А | Ч | Д | І | Ы |
| ! | А | ! | Д | Г | І | К |

Пераставіць дадзеныя слупкі так, каб можна было прачытаць вядомы агітацыйны (рэд.) лёзунг.

Увага: (Пераварачваць слупкі ня трэба).

### Задачка слоў № 2.

| | | | |
|---|---|---|---|
| А | А | А | А |
| А | А | А | В |
| М | Д | Д | М |
| М | Т | Р | Р |

З дадзеных 16-ці літар скласьці, 4-ы словы, якія маюць наступныя значэньні:

1. Частка чалавечага цела.
2. Рэч, без якой ня можа існаваць ўсё жывое.
3. Імя чалавека.
4. Знойдзеш ў хаце.

Разьмясьціць гэтыя словы ў дадзенай фігуры па парадку так, каб можна было чытаць зьлева направа, зьверху ў ніз.

### Задачка № 3.

(*У форме зоркі*).

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Л | | Ц | | С |
| | А | Т | С | |
| П | Р | А | М | К |
| | Ы | Р | А | |
| Р | | К | | А |

Дадзеныя літары трэба раставіць так, каб можна было прачытаць 4-ы словы, якія маюць значэньні:

1. Знойдзеш сярод гор.
2. Часта там купляеш.
3. Стан узросту чалавека.
4. Без чаго трудна жыць.

---

## Гульня ў мячык.

Гульня ў мячык — нескладаная, а надта цікавая. Тут не патрабуецца вялікай затраты сродкаў. Сродкі патрэбны толькі купіць мячык. Кошт-жа мячыка ад 70 кап. і звыш, так што здабыць яго колектыўна 2-3 піонэрам ня цяжка.

Для гульні з мячыкам патрэбна сьцяна, або шырокая дошка. Для чаго? Аб гэтым будзе гутарка ніжэй.

Мэта гульні—разьвіцьцё спрытнасьці, рухавасьці. Лік удзельнікаў 3-5 асоб.

Гульня падзяляецца на 7 момантаў.

1. Патрэбна мячык кінуць вобземлю (але памалу) так, каб ён падскочыў і новы ўдар па ім заставіў-бы яго зноў стукнуцца вобземлю і так паўтарыць тры разы. Калі-ж мячык выскаўзьне з пад рукі і адскочыць ў бок, тады ён передаецца наступнай асобе. А калі ўсё йдзе гладка, тады пераходзім да 2-га моманту.

2. Трэба стаць ад сьцяны аршын 3-4 і стукнуць мячыкам аб сьцяну так, каб ён, стукнуўшыся аб яе, кінуўся на землю, а асоба, якая яго кінула, схапіла-б мячык ў рукі (паўтарыць 3 разы). Калі правал—перадай другому.

Цяпер пераходзім да 3-яга моманту гульні.

3. Трэба мячык кінуць вобземлю так, каб ён стукнуўся аб сьцяну, і асоба, якая яго кінула, схапіла-б мячык у рукі (паўтарыць 3 разы).

4. Падыйдзі да сьцяны, выцягні левую руку, упры яе ў сьцяну і кідай мячык пад руку, уверх так, каб пасьля змог схапіць яго (паўтарыць 3 разы).

5. Падымі левую нагу і пад яе кідай мячык так, каб ён стукнуўся аб сьцяну і ты змог злавіць яго. Адлегласьць ад сьцяны—3-5 аршын. (Паўтарыць 3 разы).

6. Падыйдзі да сьцяны, стань плячыма да яе і ўпрыся галавою, і кідай мячык так, каб ён стукнуўся аб сьцяну, а ты не адгінаючыся ад яе, схапіў-бы мячык у рукі. (Паўтарыць 3 разы). Калі мячык упадзе на зямлю, лічыцца, што ты прайграў, а мячык перадаецца другому.

7. Адыдзіся ад сьцяны крокаў 8-10 і кідай мячык аб сьцяну так, каб ён стукнуўся аб яе, а ты схапіў-бы яго назад у рукі наляту. (Паўтарыць тры разы).

Вось і ўсе моманты гульні.

Памылкамі ў гульні лічацца: калі, скажам, мячык трэба схапіць наляту (як гэта сказана ў 7 моманце гульні) а ты яго схапіў пасьля таго, як ён стукнецца вобземлю, гэта будзе няправільна. Таксама памылкаю лічыцца калі ты, скажам, замест таго, каб мячык стукнуць тры разы засап (як гэта сказана ў моманце 1-ым) ты яго стукнеш 2 або 4 разы.

Гульня лічыцца закончанаю тады, калі хто-небудзь з гуляючых дасягне першым наступнага: без памылкі праробіць усе вышэйпамянёныя моманты гульні.

Прычым, трэба адзначыць, што ўся гульня падзяляецца на тры асноўныя часткі. Першая — гэта калі кідаеш мячык і павінен яго схапіць 3 разы, для прыкладу, узяць хаця-б частку 2-га моманту, дзе патрэбна мячык кінуць тры разы аб сьцяну так, каб ён упаў на зямлю, а ты яго схапіў у рукі.

2-ая частка, калі мячык кідаецца ня 3, а ўжо ўсяго 2 разы.

3-яя частка, калі мячык кідаецца адзін раз, а ня тры, як гэта мы бачылі ў першым прыкладзе.

Частка выкананая без памылак—не паўтараецца. Калі-ж, скажам, на моманце 3-ім, а хаця-б на 7-ым здарыўся правал—частка лічыцца праігранаю. І калі прыйдзе зноў твая чарга, патрэбна пачынаць зноў з першага моманту гульні.

Піонэр **Пятрусь Вір.**



# Бліскавіцы над лясамі.

*Музыка М. Равенскага.* Словы *Ўл. Дубоўкі.*

Адзін голас.

Бліс-ка-ві-цы над ля-са-мі вы-шы-ва-лі не-ба. Мы па-зна-лі доб-ра са-мі, што па-ноў ня трэ-ба.

Усе разам.

Жу-ра-вель-кі, жу-ра-ві-ны я-гад-кі ва-сень-ні-я. Па-ля-це-лі над да-лі-най песь-ні пі-о-нэр-скі-я.

Пяруны ў барох грымелі,
расьцьвіталі верасы.
Бацькі нашы гора мелі
на сівыя валасы.

На цымбалах на яловых
заіграем маладым:
Хто шукае сьцежак новых,—
гэй, да нашай грамады!

Пойдзем разам, пойдзем дружна,
перад намі—ўсе шляхі.
Бой апошні, бой напружны
кліча ўсіх нас з пад страхі.

Над балотам, над чаротам
паляцелі журавы.
На паноў ня трэба шроту:
мы дадзём ім журавін!

Гэй-жа-гэй, браты, за намі
да квяцістых, сьветлых дзён!
Гэй-жа-гэй, мы з пярунамі
да Камуны шлях кладзём!





**М. Вярнікоўскаму.**—Твой допіс—„Праца піонэраў-комсамольцаў"—ня пойдзе. Нічога вызначанага, сталага ў ім няма. Бяз фактаў гэты допіс траціць сваю вартасьць. Верш таксама ня пойдзе, таму што большую частку верша займаюць агульныя, зьбітыя ўжо сказы.

**М. Горану.**—Частушкі да друку не падыходзяць, сьпяваць іх нельга. Чытай і больш прыглядайся да тэхнікі вершаў.

**Я. Кулікаву.**—Твой допіс—„Форпост падцягніся"—спазьніўся. Шлі новыя.

**Даніленку.**—Верш—„Разгавеліся"—ня пойдзе. Тэма зусім неапрацаваная. Так вершы пісаць нельга.

**Волькінду.**—П'еса „Бяспрытульны" да друку не падыходзіць. Гэткую п'есу мы ўжо зьмяшчалі. Апрача гэтага, напісана п'еса даволі слаба.

**І. Сапіру.**—Твае допісы—„Некалькі слоў аб нашай часопісі" і „Радыо"—ня пойдуць. Таму што аддзел „Жыцьцё дзяцей за мяжой" даецца амаль што ў кожным нумары, што тычыцца да „Радыо", дык на гэта рэдакцыя ўжо зьвярнула ўвагу. У чарговым нумары будзе зьмешчаны артыкул, на тэму: „Як зрабіць самому радыо-прыёмнік"; ў далейшым шэраг іншых.

**Варшалу М.**—Твой допіс—„Так і трэба"—ня пойдзе.

**К. Шавелю.**—Твой верш—„Ой ты, вецер"—ня пойдзе. Думка вершу даволі старая і ня цікавая.

**Я. М.**—Твае тры малюнкі з жыцьця дзіцячага гарадка імя Чарвякова не падыходзяць. Папершае, з мастацкага боку ніякай вартасьці яны ня маюць, слабыя, падругое, намаляваны алоўкам бяз аніякай выразнасьці у адценьнях.

**Н. Вярбовічу.**—Твой верш ня пойдзе. Бяры другія тэмы, аб кулаках ужо шмат пісалася.



**Я. Мяліку.**—„Аб жыцьці і працы дзіцячага гарадка імя Чарвякова" матар'ялы ўжо друкаваліся. Ня пойдзе.

**Ю. Таўбіну.**—Верш—„Раніца хмурыцца"—да нашай часопісі не падыходзіць. Другі верш—„Раніца"—зьмяшчаем у гэтым нумары. Шлі яшчэ.

**З. Астапенку.**—Твой верш да друку не падыходзіць.

## Запытаньні і адказы.

### Запытаньні.

1. Ці мае права сакратар атраду адбіраць піонэрскія значкі ў не піонэраў? *Плашчынскі.*

2. Ці можна ў БП пасылаць допісы, пісанныя друкаванымі літарамі?

3. Ці можна пасылаць у рэдакцыю рэбусы і як іх маляваць? *Пячкоўскі.*

### Адказы.

1. Не піонэры ня маюць права насіць піонэрскіх значкоў. Але і адбіраць таксама ня варта. Калі ўжо дзеці гэтак цікавяцца значкамі, дык чаму-ж—няхай паносяць.

2. Можна.

3. Можна. Маляваць трэба атрамантам або тушшу.



Дакладчыкаў трэба выбраць самых лепшых, калі няма іх сярод піонэраў, дык лепш усяго зьвярнуцца да комсамольцаў, яны дапамогуць.

Калі дзе ўдасца дабыць чароўны ліхтар, справа наладзіцца яшчэ лепш. Піонэры намалююць прыкладныя рэчы з ураджаю і дасягненьняў таго ці іншага гаспадара і пакажуць усім іх на сходзе. Ды багата чаго можна прыдумаць і паказаць, адпаведна лёзунгам сьвята.

Вось такім павінен быць удзел піонэраў у сьвяце. А то калі вы толькі з песьнямі будзеце маршыраваць і крычаць, сяляне будуць дзівіцца на гэта, як на жарты якія-небудзь.

Нашы гаспадары мала чаго ведаюць і мала цікавяцца гаспадараваньнем, а робяць „збольшага", як дзед і прадзед рабіў. Трэба старацца разварушваць гэткіх гаспадароў і дапамагаць ім, карыстаючыся кожным момантам.

Калі гэтыя піонэры, зацікавіўшыся сельскагаспадарчай справай, шчыра і прыхільна яе спаткаюць, што-небудзь уведаюць, праверацъ, то і гэткая праца маладых гаспадароў ужо карысьць для справы.

Сьвята ураджаю самы добры момант для такой працы.

Калісьці наладжваліся ў нас сьвяты для таго, каб пагуляць, паспаць, паваляцца дзенебудзь.

Новыя нашы сьвяты, як вось і сьвята ураджаю, зьвязаны з значнымі падзеямі ў нашым жыцьці, таму і сьвяткаваць іх трэба



За працай.

жвава, рухава, прыстасоўваючы да гэтых падзей адпаведныя гутаркі, выстаўкі, чытаньне і г. д.

Вось гэтак пастарайцеся правесьці і сьвята ураджаю.

Калі нават і ня ўдасца цалкам і ўсюды ўцягнуць бацькоў і зацікавіць іх сьвятам, дык хоць самі добра наладзьце яго і выкарыстайце для ўласнага дасканалага азнаямленьня.

**Д. Сумны.**

# З Ь М Е С Т.



Выданьне **НКА БССР.** Рэдактар—**Рэдколегія.**






## Па туманнай далі...

Па туманнай далі
Ветры засьпявалі,
Поле абвілося ў сівы ценяў шоўк.
Хмары пазьвісалі...
Не гарыць крышталью
Залатая восень — журавінны сок.

Не сьмяецца болей
Гай зялёным гольлем,
Не сьмяюцца звонка дзеці на расе:
Замяніў прывольле
Лемантар у школе, —
Радасьць і гамонка, і вясёлы сьмех...

Сумна вецер плача,
Як жабрак-бядача,
У траве пажоўклай шэлестам дрыжыць.
Мо' затым ён плача,
Што ўжо больш ня ўбачыць
Пастушкоў вясёлых на пустой мяжы.
— Ой ты, мілы вецер,
Нам ніколі ў сьвеце
Не забыцца лета — пары дарагой!
Толькі ведай, вецер:
Больш кахаюць дзеці
Лемантар вось гэты,
Чым гульню з табой!

*А. Якімовіч.*






Менск, 1-я дзярж. друк. Зак. № 4056. Галоўлітбел № 20739.